# НАША СВАБОДА

№80(167) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

1 ЖНІЎНЯ 2001 года
СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Наблюдателей не пускают

*Белорусские власти отказались предоставить въездные визы международным наблюдателям из Бюро по демократическим институтам и правам человека ОБСЕ. Официальная причина отказа – слишком ранний приезд. Мол, незачем пока наблюдать.*

30 июля белорусская сторона «порекомендовала», мягко говоря, Бюро по демократическим институтам и правам человека ОБСЕ (БДИПЧ) отсрочить направление Миссии по наблюдению за предстоящими президентскими выборами.

Открытие офиса БДИПЧ ОБСЕ в Минске планировалось 1 августа. БДИПЧ ОБСЕ уже приняла решение направить 150 долгосрочных наблюдателей, которые должны были прибыть в Беларусь за шесть недель до даты выборов (в эти сроки долгосрочные наблюдатели не укладываются) и 14 краткосрочных наблюдателей, которые должны были следить за волеизъявлением граждан именно 9 сентября. Несмотря на то, что еще 9 июля БДИПЧ впервые проинформировало власти Беларуси о своих планах направить полномасштабную миссию наблюдателей с 1 августа и подтверждало свои намерения публично и частным образом, белорусские власти всячески оттягивают прибытие наблюдателей БДИПЧ ОБСЕ.

«Я чрезвычайно разочарован данным решением, — заявил директор БДИПЧ Жерар Штудман. — Каждый день задержки с прибытием нашей миссии ограничивает наши возможности по организации профессионального наблюдения на том уровне, как это осуществляется в других странах-участницах ОБСЕ. Присутствие БДИПЧ направлено на повышение уровня избирательного процесса; затягивание нашего прибытия способствует лишь подрыву доверия к выборам как внутри страны, так и за рубежом».

В день планированного открытия офиса, 1 августа, в Минск должны были прибыть пять членов БДИПЧ – первая группа контингента долгосрочных наблюдателей за президентскими выборами. Задачи, стоящие перед миссией по наблюдению, включают мониторинг процесса регистрации кандидатов и формирования участковых комиссий — оба являются важными этапами текущего избирательного процесса.

В распространенном из Варшавского офиса БДИПЧ сообщении говорится, что в рамках своих обязательств перед ОБСЕ все страны-участницы ОБСЕ, включая Беларусь, обязаны приглашать БДИПЧ для наблюдения за проводимыми в них выборами. БДИПЧ является главной структурой в Европе по наблюдению за выборами.

**Рыгор БУЯН**

## Дзейнічаюць «брудныя тэхналогіі»

30 ліпеня прэс-цэнтр патэнцыйнага кандыдата на пасаду прэзідэнта Уладзіміра Ганчарыка распаўсюдзіў заяву, у якой гаворыцца аб шматлікіх парушэннях у ходзе перадвыбарнай кампаніі.

Як указваецца ў дакуменце, «вынікі збору подпісаў і здачы іх ініцыятыўнымі групамі патэнцыйных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларусі сведчаць аб тым, што дзеючая ўлада ўжо стала на шлях фальсіфікацыі маючых адбыцца выбараў і жорсткага кантролю за ходам выбарчай кампаніі. Улады яўна спрабуюць разыграць найбольш зручны для дзеючага прэзідэнта перадвыбарны сцэнарый».

Заканчэнне на стар.3

# Адпачынак у Беларусі лепш за кіпрскі?



Фота IREX/ProMedia

Паводле дадзеных Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, за першыя сёлетнія 6 месяцаў на аздараўленне выязджала 120 тысяч беларускіх дзяцей. Менш 10% з іх адпачывалі і лекаваліся ў камчарнобыльскіх установах. Дарэчы, тыя, каму не пашчасціць там пабываць, атрымліваюць грашовую кампенсацыю.

Што да аздараўлення малых «чарнобыльцаў» за мяжой, то ў Камчарнобылі лічаць больш эфектыўным у параўнанні з ім адпачынак ва ўмовах Беларусі. Са словаў кіраўніка аддзела медыцынскай і сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі і аздараўлення Камчарнобыля Івана Коваля, «калі дзіця едзе на Кіпр альбо ў Амерыку, адаптацыя да іхняга клімату адмоўна адбіваецца на стане дзіцяці». Тое самае тычыцца, на думку І.Коваля, і побытавых умоваў.

**Алесь КАТОВІЧ**

# Палкоўнік Алкаеў з'ехаў за мяжу

*Былы начальнік СІЗА №1 палкоўнік Алег Алкаеў, што праходзіў сьведкам па справе гучных зьнікненьняў (ці забойствам?), зьехаў зь Беларусі. І зусім не ў адпачынак. Хоць па афіцыйнай версіі Алег Леанідавіч адправіўся менавіта адпачываць. У дзень, калі ў незалежных сродках масавай інфармацыі былі апублікаваныя дакумэнты з грыфам «Сов.секретно», прадстаўлены шырокай грамадзкасьці У.Ганчарыкам, Алег Алкаеў зьехаў з дому ранкам. Ужо па тэлефоне папярэдзіў жонку, каб не чакала і не хвалявалася. З таго часу так і не зьяўляўся.*

Нагадаем, што да нядаўняга часу Алег Алкаеў быў кіраўніком спэцыяльнай групы па прывядзеньні да выкананьня сьмяротных прысудаў. У рапарце, пададзеным на імя міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава, распавядалася, пры якіх абставінах Алег Алкаеў пазнаёміўся з камандзірам САХРу Зьміцерам Паўлючэнкам, якога, як вынікае з дакумэнтаў, падазраюць у забойствах Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і іншых. Паўлючэнка на асабістым загадзе былога міністра ўнутраных справаў Сівакова быў дапушчаным на працэдуру выкананьня прысудаў, падчас якой пацікавіўся у выканаўцы, «чаму ён страляе ў галаву, а ня ў сэрца». І, напэўна зь веданьнем справы, заўважыў: «выстрал у сэрца больш гуманны і пры гэтым выцякае менш крыві...»

Рапарт Алкаеў пісаў 23 лістапада 2000 года. На наступны дзень ён даваў сьведчаньні намесьніку начальніка адзьдзелу пракуратуры Беларусі, дарадцы юстыцыі Е.Г.Казакову. Алкаева дапытвалі дзьве з паловаю гадзіны...

Экс-міністар унутраных справаў, дзейны намесьнік главы Адміністрацыі прэзыдэнта, Юры Сівакоў у адным са сваіх «эксклюзыўных» інтэрвіо дастаткова катэгарычна заявіў: «Мне незразумела, чаму той самы Алкаеў заяўляе: *«Па асабістым указаньні міністра». Ён што, ад мяне атрымоўваў указаньні?..І, дарэчы, дзе зараз той Алкаеў? Чаму не сьпяшаецца падцьвердзіць свае словы?»*

Не сьпяшаецца Алег Леанідавіч. Верагодна, таму, што ён разумее: калі зараз пачне гаварыць, можа раптоўна замоўкнуць назаўсёды. Тым больш, што ў апошні час у доме Алкаева сталі раздавацца дзіўныя тэлефонныя званкі, а побач з кватэраю – зьяўляцца ня менш дзіўныя маладыя людзі.

Па некаторай інфармацыі, некалькі дзён супрацоўнікі Савету бясьпекі спрабавалі «ўгаварыць» Алега Леанідавіча адмовіцца ад сваіх сьведчаньняў, зьмяніць іх. Алкаеў аказаўся Сапраўдным Палкоўнікам. Таму яму й прыйшлося тэрмінова зьехаць з краіны. Пакуль на нявызначаны тэрмін. І можна ня сумнявацца: пры першай магчымасьці ён абавязкова падцьвердзіць свае словы.

Думаю, калі А.Лукашэнка насуперак усім сваім «дарадчыкам» усё-ж-такі рашыцца на стварэньне незалежнай камісіі па расьследаваньню зьнікненьняў Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і іншых, графалягічная экспертыза без асаблівага намаганьня ўстановіць сапраўднасьць рапартаў генэрала Лапаціка й палкоўніка Алкаева. Зрэшты, тады высьветліцца нямала цікавых дэталяў...

Афіцэр, добра знаёмы з Алкаевым, сказаў: *«Два дурні – Лапацік і Алкаеў – вырашылі пайсьці супраць Сыстэмы. Захацелі быць сумленнымі й прыстойнымі. Забойцы, як ні ў чым не бывала, разгульваюць на свабодзе й займаюць высокія дзяржаўныя пасады, а яны вымушаныя хавацца й рабіць выгляд, што ў іхным жыцьці ўсё выдатна! У верасьні ўлада, падобна, ня зьменіцца. І што ў выніку?»*

Уласна, а хто сказаў, што гэта – вынік.

**www.charter97.org**

# Засыпаліся на цукры

Адразу тры чыноўнікі найвышэйшага звяна – міністр гандлю Пётр Казлоў, старшыня Белкаапсаюза Віктар Уладыка і прэзідэнт дзяржаўнага канцэрна «Белхарчпрам» Іван Шакола – пазбавіліся сваёй пасады. Адпаведны ўказ падпісаў у панядзелак Аляксандр Лукашэнка. Гэта самая буйная замена ў складзе кіраўніцтва краіны з часоў адстаўкі «сілавікоў» у лістападзе мінулага года.

Як вядома, тады прычынай адстаўкі генеральнага пракурора Алега Бажэлкі і старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Уладзіміра Мацкевіча сталася расследаванне аб знікненні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, апазіцыянераў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, а таксама бізнесмена Анатоля Красоўскага. А.Бажэлка і У.Мацкевіч даведаліся зашмат, і іх спатрэбілася тэрмінова «прыбраць».

Цяперашняя адстаўка мае куды больш празаічную прычыну. Чыноўнікі засыпаліся на цукры. Менавіта адсутнасць гэтага прадукту на рынках і ў крамах у гарачую пару хатніх загатовак стала ракавой. Указ А.Лукашэнкі адзначае, што В.Уладыка, П.Казлоў і І.Шакола зняты з пасадаў за «сур'ёзныя хібы ў працы, якія праявіліся ў неналежным выкананні службовых абавязкаў».

Заканчэнне на стар.6

## Еўрасаюз звярнуўся да Беларусі

Еўрасаюз прыняў заяву, у якой заклікаў Беларусь стварыць умовы да правядзення свабодных і дэмакратычных прэзідэнцкіх выбараў. Разам з тым у гэтай заяве выказваецца спадзеў, што ў краіну будуць запрошаныя міжнародныя назіральнікі, што яны пачнуць сваю працу ўжо з 1 жніўня.

## «Балтыка» ўсё ж прыйшла

Расійскі піўзавод «Балтыка» ўсё-такі распачаў рэканструкцыю мінскага бровара «Крыніца» агульным коштарысам 50 мільёнаў долараў. Пасля яе на «Крыніцы» будзе выраблядца 15 мільёнаў дэкалітраў піва. Не выключана, што ў выніку «Балтыка» завалодае кантрольным пакетам акцыяў беларускага прадпрыемства.

## Палова беларусаў — вернікі

Паводле даследаванняў навукоўцаў Акадэміі навук Беларусі, прыкладна палова жыхароў нашай краіны ўважаюць сябе за вернікаў. Дамінуе праваслаўе. Далей ідзе касцёл з 400 парафіямі. Пратэстанты маюць 607 прыходаў. Дзейнічаюць таксама 16 іудаісцкіх абшчынаў.

## Эксперыментальная аптэка ў Віцебску

1 жніўня ў Віцебску ў якасці эксперыменту адчыніцца сацыяльная аптэка. Яна будзе размешчаная ў будынку адной з дзяржаўных аптэкаў на праспекце Будаўнікоў. Тут будуць прадавацца больш танныя лекі для малазабяспечаных слаёў насельніцтва.

## ДТЗ более ў выхадныя

Кожныя выхадныя дні на дарогах Міншчыны Дзяржаўнай аўтаінспекцыяй фіксуецца павелічэнне дарожна-транспартных здарэнняў. Гэтак у перыяд з 27 па 29 ліпеня ў рэгіёне адбылося звыш двух дзесяткаў ДТЗ, у якіх 3 чалавекі загінулі і яшчэ 24 атрымалі траўмы.

## Без адукацыі – значыць, без працы

Па стане на 1 ліпеня гэтага года колькасць беспрацоўных, якія не маюць сярэдняй адукацыі, склала 15% ад усіх тых, хто не працуе. Усяго на адмысловым уліку беспрацоўных знаходзяцца 1,7% беларускага насельніцтва.

## Каб паболела ватаў

Завершана распрацоўка праекта рэканструкцыі Бярозаўскай ГРЭС. Цяпер гэты праект мусіць быць зацверджаны ў Савеце міністраў. Па ажыццяўленні першага этапу рэканструкцыі на энергаблоках станцыі з'явяцца 4 газавыя турбіны магутнасцю 25 мегават. У выніку магутнасць энергаблокаў павялічыцца ад 160 да 210 мегават.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1450

ТЭНДЭНЦЫІ

## Долар стаў расці хутчэй

На мінулым тыдні (23-29 ліпеня) курс долара да беларускага рубля ўзрос на ўсіх сегментах валютнага рынку.

На таргах Беларускай валютна-фондавай біржы курс долара павысіўся на 0,7% (з 1.403 да 1.413 рублёў), нямецкай маркі і еўра — на 1% (адпаведна з 627 да 633 і з 1.225 да 1.237 рублёў), расійскага рубля — на 0,8% (з 47,92 да 48,30).

На «чорным» рынку наяўнай валюты каціроўка долара павялічылася на 0,3% (з 1.435-1.440 да 1.440-1.445 рублёў пры куплі, з 1.450-1.455 да 1.455-1.460 рублёў пры продажу).

У абменных пунктах камерцыйных банкаў курс амерыканскай валюты ўзрос на 0,7% (з 1.415-1.430 да 1.425-1.440 рублёў пры куплі, з 1.440-1.450 да 1.450-1.460 рублёў пры продажу).

На ўнутраным пазабіржавым безнаяўным рынку каціроўка долара павялічылася на 1,1% (з 1.400-1.405 да 1.415-1.420 рублёў).

З пачатку месяца «чорны» наяўны курс долара ўзрос на 3,3%, банкаўскі наяўны — на 3,5%, біржавы і пазабіржавы — на 2,2%. Неабходна зазначыць, што тэмпы росту курсу долара ў ліпені амаль удвая вышэйшыя за чэрвеньскія практычна на ўсіх сегментах валютнага рынку.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

КРЫМІНАЛ

## Беларусы рабавалі нямецкія банкі

У Германіі затрыманыя грамадзяне Беларусі, якія ў складзе арганізаванай банды рабавалі банкі. Як паведамілі БелаПАН у пасольстве ФРГ у Мінску, 25 ліпеня беларускія злачынцы ўчынілі апошняе з шэрагу нападзенняў на банкі.

Двое з трох рабаўнікоў банка былі затрыманыя пасля непрацяглага пераследу з дапамогай верталётаў і аўтамабіляў спецыяльнымі падраздзяленнямі паліцыі некалькіх федэральных зямель. Яны спрабавалі пазбегнуць арышту, выкарыстоўваючы агнястрэльную зброю. Калі служачыя паліцыі адкрылі агонь у адказ, злачынцы атрымалі раненні, не небяспечныя для жыцця. Праз дзень быў затрыманы трэці злачынца. Усім затрыманым ад 22 да 35 гадоў.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ**

МІЛІЦЫЯ

## У Ваўкавыску затрымалі актывіста «Зубра»

Непаўнагадовы актывіст «Зубра» Алег Ботвіч быў затрыманы ў Ваўкавыску міліцыяй. Гэта адбылося ў нядзелю, 29 ліпеня. У хлопца былі знойдзеныя налепкі і балончыкі з фарбай. Па словах Алега, намеснік начальніка РАУС С.Кацуба выцяў яго балончыкам па галаве і кулаком у грудзі. Бацька хлопца Л.Ботвіч напісаў скаргу ў пракуратуру.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**



## Ярмошына заплюшчвае вочы на Лукашэнку

Старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына не ўгледзела ніякіх парушэнняў выбарчага заканадаўства ў выступленні Аляксандра Лукашэнкі на віцебскім тэлевізійным заводзе «Віцязь» 21 ліпеня. Пра гэта гаворыцца ў афіцыйным адказе ЦВК на заяву Тамары Юневіч — назіральніка за зборам подпісаў у падтрымку прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка дзяржавы ў Віцебску.

З заявай у Цэнтрвыбаркам Тамара Юневіч звярнулася 22 ліпеня. У заяве сцвярджалася, што ўдзельнік выбарчай кампаніі Лукашэнка парушыў 45-ы артыкул Выбарчага кодэкса, згодна з якім прэтэндэнт на пасаду кіраўніка дзяржавы можа праводзіць перадвыбарную агітацыю толькі пасля афіцыйнай рэгістрацыі яго кандыдатам. Як зазначалася ў заяве, на сустрэчы з працоўным калектывам «Віцязя» Лукашэнка адкрыта заклікаў галасаваць за яго, «зневажаючы і прыніжаючы іншых прэтэндэнтаў у кандыдаты». Апрача таго, яго выступленне мелі магчымасць убачыць усе беларускія выбаршчыкі, паколькі яно транслiравалася вечарам таго самага дня па нацыянальным тэлеканале.

Апрача Цэнтрвыбаркама, Тамара Юневіч накіравала гэтую заяву ў АБСЕ, Беларускі Хельсінкскі камітэт і генеральнаму пракурору рэспублікі Віктару Шэйману. Пісьмовы адказ яна атрымала пакуль толькі ад Лідзіі Ярмошынай.

**Ірына МАРЫСКІНА**

ПЕРФОРМАНС

## Затрымалі за пудзіла

29 ліпеня 2001 года ў Брэсцкім гарадскім парку культуры і адпачынку а 18:30 інспектар па справах непаўнагадовых Сахенка Уладзімір Мікалаевіч затрымаў непаўнагадовага хлопца, які нёс пудзіла. У гэтым пудзіле інспектар Сахенка ўгледзеў «Прэзідэнта». Хлопца даставілі ў Ленінскі РАУС. Там інспектар Сахенка палохаў хлопца крымінальнымі справамі за абразу прэзідэнта і абяцаў 5 гадоў пазбаўлення волі, пасля чаго даў падпісаць тлумачэнне, і па прыбыцці бацькоў хлопца адпусцілі.

**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

## Прабег у падтрымку Шчукіна

30 ліпеня лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец і актывіст гэтай незарэгістраванай арганізацыі Андрэй Саротнік падалі заяўку на правядзенне прабегу пад лозунгам «Выбірай свабоду!» па маршруце Мінск—Жодзіна. Маладафронтаўцы праводзяць гэтую акцыю ў падтрымку дэпутата Вярхоўнага Савета XIII склікання Валерыя Шчукіна, які ўтрымліваецца ў арыштным доме, што знаходзіцца на тэрыторыі следчага ізалятара УУС Мінгарвыканкама ў Жодзіне.

Прабег запланаваны на 13 жніўня. Ён павінен пачацца а восьмай гадзіне раніцы ад перасячэння праспекта Скарыны ў Мінску і Мінскай кальцавой дарогі. Закончыцца акцыя павінна а 15 гадзіне каля следчага ізалятара ў Жодзіне.

У прабегу возьмуць удзел дзесяць групаў па тры чалавекі, якія будуць перадаваць як эстафету белыя сцягі з надпісамі «Свабоду Шчукіну!» і «Выбірай свабоду!», а таксама бел-чырвона-белыя сцяг.

Малады Фронт ужо не першы раз праводзіць падобныя спартыўна-палітычныя акцыі. Напрыклад, у 1997 годзе, у міжнародны Дзень абароны правоў чалавека, 10 снежня, быў праведзены прабег «Жодзіна—Мінск—Стоўбцы» ў падтрымку арыштаваных за нанясенне палітычнага графіці Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

ЛЮСТРАФАКТ



Фота IREX/ProMedia

«Ці загарыцца камбайн ад напружанай працы?» – думае калгасны пажарны

## Ртуць у хаце

Каля 700 грамаў ртуці было сабрана ў прыбудове, якая належыць 60-гадовай жыхарцы Брэста.

Як паведамілі БелаПАН у прэсслужбе ўпраўлення міністэрства па надзвычайных сітуацыях па Брэсцкай вобласці, 29 ліпеня падчас уборкі жанчына знайшла ў памяшканні ёмістасць, у якой, паводле яе меркавання, знаходзілася ртуць. Яна пазваніла ў МНС. Спецыялісты звяна хіміка-радыяцыйнай разведкі, якія выехалі на месца здарэння, выявілі, што шарыкі ртуці рассыпаныя ўнутры памяшкання. У выніку яны назбіралі 650 грамаў небяспечнага рэчыва. Канцэнтрацыя пароў унутры памяшкання перавышала дапушчальную ў два разы. Спецыялісты МНС знялі грунт і правялі дэмеркурызацыю.

Дадзеным фактам зацікавілася следчая група РАУС Ленінскага раёна Брэста. Высветлілася, што ў гэтым памяшканні некаторы час жыў ураджэнец Івацэвіцкага раёна 30-гадоў рознарабочы. Два месяцы таму ён выселіўся і паехаў у невядомым напрамку, пакінуўшы ў памяшканні ртуць.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## «Правы чалавека» для Оршы

У Оршы выйшаў першы нумар інфармацыйна-прававога бюлетэня «Правы чалавека». Яго галоўным рэдактарам стаў кіраўнік аддзела адукацыйных праграмаў мясцовай грамадскай арганізацыі «Цэнтр імя Філона Кміты» Сяргей Марусенка.

На думку заснавальнікаў новага выдання, неабходнасць у ім узнікла даўно — пераважная большасць мясцовых грамадзянаў не ведаюць сваіх элементарных правоў.

Першы нумар бюлетэня знаёміць чытачоў з трыма артыкуламі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. На пытанне пра тое, як абараніць сябе ад работадаўца, адказвае юрысткансультант Свабоднага прафсаюза Беларускага Алег Граблеўскі.

Яшчэ адной тэмай сталі правы вучня ў школе. Як высветлілася, настаўнік не мае права чытаць запіскі, якія ён забірае ў дзяцей, умешвацца ў асабістае жыццё вучня, прымушаць да ўборкі тэрыторыі без згоды на тое вучня ці яго бацькоў, а таксама да наведвання тэатраў, музеяў і іншых установаў. У бюлетэні таксама апублікаваныя каардынаты грамадскіх арганізацыяў Оршы, дзе можна атрымаць юрыдычную дапамогу па адміністрацыйным і працоўным заканадаўстве.

Пакуль наклад новага штомесячніка складае ўсяго 299 асобнікаў, аднак яго выдаўцы не збіраюцца спыняцца на дасягнутым.

**Ірына МАРЫСКІНА**

## 100 долараў толькі сняцца

119 тысяч рублёў склала ў чэрвені сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у Віцебскай вобласці. Па афіцыйным курсе гэта складае каля 84 долараў.

Такім чынам, да сярэдняй зарплаты ў 100 долараў, абяцанай сёлета, працоўныя Віцебшчыны некалькі «не дацягваюць». Далей за ўсіх ад «кантрольнай» лічбы знаходзяцца работнікі мастацтва, якія атрымалі за чэрвень у сярэднім па 66,3 тысячы рублёў. Затым ідуць калгаснікі, чэрвеньская зарплата якіх склала 73,5 тысячы рублёў.

Стодоларавую мяжу ў Віцебскай вобласці ўпэўнена перайшлі толькі работнікі манаполіяў: электраэнергетычнай — 232,8 тысячы і паліўнай — 230,4 тысячы рублёў.

**Леанід СІМАНАЎ**

ІМПРЭЗЫ

## Чэшскае кіно ў Мінску

З 30 ліпеня па 2 жніўня ў мінскім кінатэатры «Перамога» праходзяць Дні чэшскага кіно, арганізаваныя пасольствам Чэхіі ў Беларусі і сталічнай асацыяцыяй «Кінаклуб».

Дні адкрыліся паказам аднаго з самых папулярных чэшскіх фільмаў апошніх гадоў – «Усе мае сваякі» рэжысёра Мацея Мінача. Ён уяўляе сабою трагікамічную сагу аб вялікай яўрэйскай сям'і з маленькага гарадка, якая аказалася ў канцы 30-х гадоў перад няпростым выбарам – эміграцыя ці жыццё «пад немцамі». Як адзначыў на прэс-канферэнцыі напярэдадні паказу Часовы паверааны ў справах Чэхіі ў Беларусі Алеш Фойцік, калі ён убачыў гэты фільм, то вырашыў, што яго абавязкова трэба паказаць у Беларусі.

У праграму паказу ў Мінску ўключаны таксама кінастужкі «Ці не хочаце пакаштаваць шпінату?» і «Марэчак, перадайце мне ручку». Акрамя таго, штодзень у рамках праграмы на спецыяльных дзіцячых сеансах будуць дэманстравацца чэшскія мультфільмы.

Па словах Фойціка, сучаснае чэшскае кіно развіваецца дастаткова паспяхова: за апошнія 10 гадоў знята 100 фільмаў. Актывізаваліся замежныя кінематаграфічныя сувязі. Чэшскіх акцёраў запрашаюць здымацца ў Галівуд, у той час як замежныя пастаноўшчыкі здымаюць у Чэхіі большасць сваіх гістарычных фільмаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

ПРАЦА

## Беспрацоўныя жанчыны

56% зарэгістраваных у Брэсцкай вобласці беспрацоўных — жанчыны. Паводле звестак на 1 ліпеня, іх колькасць склала 7 тысяч, прычым узрост 40% жанчын, якія шукаюць працу, не перавышае 25 гадоў.

Калі сітуацыя з жаночым беспрацоўем у самім Брэсце яшчэ не надта вострая з-за блізкасці мяжы (многія ездзяць у Польшчу гандляваць спіртным і цыгарэтамі), то ў раёнах вобласці яна — крытычная. Па словах начальніка аддзела Брэсцкай абласной службы занятасці Ларысы Масальскай, асабліва высокі ўзровень жаночага беспрацоўя ў палескіх рэгіёнах. Толькі кожнае пятае з прапанаваемых у вобласці месцаў прызначана для жанчыны: гэта азначае, што за год праз службу можна працаўладкаваць каля 800 жанчын. Як правіла, жанчына шукае працу тры і болей месяцаў, у той час як мужчына — 1-2 месяцы.

Па-ранейшаму высокай застаецца для жанчын і рызыка трапіць пад скарачэнне штатаў. Цяперашнім часам, па словах Масальскай, сярод беспрацоўных жанчын шмат прафесійных швачак, повараў, эканамістаў, тэхнікаў рознага профілю, таваразнаўцаў і юрыстаў, звольненых па скарачэнні.

Як паказвае практыка, пасля заканчэння ўступных экзаменаў у ВНУ колькасць жанчын, якія шукаюць працу, павялічваецца.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

ЗДАРЭННІ

## Аварыя ў Лагойску

Каля тысячы кватэраў жыхароў Лагойска засталіся 29 ліпеня без электразабеспячэння. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе міністэрства па надзвычайных сітуацыях (МНС), аварыя адбылася ў выніку адключэння кабельнага ўчастка на адной з ліній перадачаў. Без электраэнергіі застаўся не толькі жылы сектар — была спыненая праца малочнага завода, гарадской кацельні, ачышчальных прыстасаванняў і некаторых іншых аб'ектаў Лагойска. У 22 гадзіны, пасля завяршэння аварыйна-аднаўленчых работ, падача электрычнасці была аднаўленая.

Сярод надзвычайных здарэнняў мінулых выхадных у МНС таксама выдзяляюць пажары, якія адбыліся ў Гомельскай вобласці. Адзін з іх адбыўся 28 ліпеня ў будынку Гомельскага абласнога радыётэлецэнтра; яго прычынай стала кароткае замыканне ў электрасетцы. Агонь пашкодзіў сілавы кабель, аднак на наступны дзень праца тэлецэнтра была аднаўленая.

Другі пажар адбыўся ў той жа дзень на сенасклядзе калгаса «Савецкая Беларусь» у вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Згарэла 150 тонаў сена. На думку спецыялістаў, прычынай пажару хутчэй за ўсё стаў разрад маланкі.

**Крысціна СТАНКЕВІЧ**

## Жалезныя дзверы — кожнаму пад'езду

Да вырашэння праблемы прыстойнага стану пад'ездаў у жылых дамах Мінгарвыканкам збіраецца прыцягваць саміх жыхароў. З гэтай нагоды, выкарыстоўваючы вопыт Масквы і Кіева, 17 ліпеня 2001 года ім было прынятае палажэнне «Аб дадатковых захадах па рамонце і падтрыманні парадку ў пад'ездах жылых дамоў».

Спачатку сярод жыхароў будзе праводзіцца пісьмовае анкетаванне, каб яны далі ацэнку стану свайго пад'езда, а таксама выказалі свою гатоўнасць да долевага ўдзелу ў рамонце пад'езда, усталяванні жалезных уваходных дзвярэй з кодавым замком і найманні вахцёра па пад'ездзе. Далейшыя дзеянні ЖРЭУ будуць залежаць толькі ад жадання саміх жыхароў мець чыстае і ўтульнае жыллё.

Што тычыцца жалезных дзвярэй, то іх зараз па Мінску ўсталявана ў 26% усіх пад'ездаў. Іх устаноўкай жыхары могуць займацца самастойна альбо падключаць да гэтага ЖЭСы, якія ў гэтым выпадку бяруць на сабе абавязацельствы па іх далейшым абслугоўванні і рамонце. Згодна з рашэннем Мінгарвыканкама, у дварах, дзе праводзіцца рамонт і добраўпарадкаванне, ЖРЭУ павінны адразу замяняць старыя пад'ездныя дзверы на новыя, прычым жалезныя. Гэта абыходзіцца больш як у 300 долараў: альбо за кошт жыхароў пад'езда, альбо на сродкі самога ЖРЭУ.

У пяціпавярховых дамах дзверы з кодавымі замкамі і дамафонамі занадта дарагое задавальненне, бо тут усяго паўтара дзясятка кватэраў. У дзевяціпавярховых дамах – танней: адной кватэры гэта абыходзіцца прыкладна ў 30-40 долараў.

**Алена ЛАБАНАВА**

# «Чацвёрка» можа прайсці рэгістрацыю

30 ліпеня завяршылася праверка здадзеных подпісаў у падтрымку патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты акрутовымі камісіямі, і звесткі пачалі паступаць у Цэнтральную камісію па выбарах. ЦВК завершыць праверку пададзеных подпісаў толькі 4 жніўня, аднак, па папярэдніх звестках сакратара ЦВК Мікалая Лазавіка, «масавых парушэнняў не зафіксавана» ні ў аднаго з прэтэндэнтаў.

«У нас няма звестак пра тое, што дзесьці выяўленыя значныя парушэнні пры праверцы подпісаў. Пакуль што вялікай колькасці забракаваных подпісаў няма. Злосных парушэнняў не выяўлена. Але некаторыя парушэнні знайшліся — некаторыя зборшчыкі подпісаў ставілі на лістах не свае прозвішчы; збіраў подпісы адзін чалавек, а здаваў іншы», — падкрэсліў М.Лазавік.

Аднак, па папярэдніх звестках, масавых парушэнняў у подпісных лістах ні ў аднаго з патэнцыйных кандыдатаў, якія перайшлі стотысячны парог, — Сяргея Гайдукевіча, Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша ды Аляксандра Лукашэнкі — не выяўлена.

**Рыгор БУЯН**







# Вячаслаў Сіўчык: «Склад камісій вызначала «вертыкаль»

Пры фарміраванні ўчастковых камісій па выбарах прэзідэнта Беларусі «ўлады выкарыстоўвалі той жа прыём, што і пры фарміраванні тэрытарыяльных выбарчых камісій: усе кандыдатуры былі вызначаны «вертыкаллю» наперад». Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН заявіў каардынатар Міжпартыйнага цэнтра па вылучэнню прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій Вячаслаў Сіўчык.

Па афіцыйных дадзеных, з 78 тысяч 407 членаў участковых камісій толькі 3 тысячы 473 з'яўляюцца прадстаўнікамі палітычных партый ці грамадскіх аб'яднанняў. Большасць жа членаў камісій (90%) былі вылучаны працоўнымі калектывамі ці шляхам збору подпісаў.

Па словах В.Сіўчыка, Міжпартыйны цэнтр быў гатовы выставіць на ўчастковыя камісіі 20 тысяч сваіх прадстаўнікоў, аднак у выніку засталася задаволена толькі невялікая частка заявак «для таго, каб ЦВК магла аперыраваць некаторымі абрэвіятурамі». «Нашы кандыдатуры альбо не прымаліся да ўвагі, альбо «пракатваліся» на пасяджэннях адпаведных выканкамаў», — заявіў В.Сіўчык. У выніку, упэўнены каардынатар Міжпартыйнага цэнтра, улады сфарміравалі «гэткі корпус камісій, які ім патрэбны». Адказнасць за гэта В.Сіўчык ускладае, у першую чаргу, на Цэнтрвыбаркам, які, па яго словах, не захацеў ісці на перагаворы з палітычнымі партыямі і сваёй пастановай «забраніраваць» за ім квоты ў выбарчых камісіях.

У сваю чаргу, сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік 25 ліпеня заявіў, што гэткае нязначнае партыйнае прадстаўніцтва ва ўчастковых выбарчых камісіях звязана з адсутнасцю заявак на іх. Хаця, адзначыў М.Лазавік, пры фарміраванні камісій Цэнтрвыбаркам «стараўся максімальна ўлічыць пажаданні палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў». Так, па яго словах, у Мінску ва ўчастковыя камісіі не паступіла ніводнай заяўкі ні ад адной апазіцыйнай палітычнай партыі. «Аналагічная сітуацыя з актыўнасцю партый і ў другіх рэгіёнах нашай краіны», — сказаў сакратар ЦВК. На яго думку, асноўнай прычынай узнікнення такой сітуацыі стала адсутнасць у палітычных партый ніжэйстаячых структур.

Акрамя таго, сакратар ЦВК не выключае, што адсутнасць заявак на ўключэнне ў склад участковых камісій можа з'яўляцца «своеасаблівым байкотам» з боку палітычных партый. Па яго словах, партыі, ведаючы, што адным з пунктаў рэкамендацый Асацыяцыі арганізатараў выбараў краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы значыцца ўключэнне ў лік участковых камісій максімальнай колькасці іх прадстаўнікоў, наўмысна не падавалі адпаведныя заяўкі ім, тым самым стварылі глебу для таго, каб гэтыя рэкамендацыі не былі выкананы.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

# Семён Домаш: «Главная схватка ещё впереди»

***— Семен Николаевич, как бы вы оценили работу своей команды на первом этапе избирательной кампании — этапе сбора подписей?***

— Прежде всего, я хотел бы поблагодарить всех тех граждан, которые поставили подпись в мою поддержку. В наших условиях это потребовало гражданского мужества. Наша команда выиграла первый этап выборов по всем показателям. Мы сдали в избирательные комиссии 161 тыс. подписей — значительно больше, чем другие кандидаты от оппозиции. Хотя в ходе сбора подписей штабы других претендентов на президентский пост давали умопомрачительные цифры, но когда пришлось сдавать, многие мыльные пузыри лопнули. Самая лучшая динамика положительного рейтинга, рост узнаваемости — все это результат самоотверженной работы нашей команды. И по численности, разветвленности структур, которые меня поддерживают, мы также существенно превосходим группы поддержки всех других кандидатов.

***— Семен Николаевич, так вот в связи с этим сегодня многие по-прежнему пребывают в недоумении. У вас наблюдается устойчивый и динамичный рост рейтинга. Ваша инициативная группа сработала наиболее результативно. Причем, ваши сторонники не ограничились только большими городами, они собирали подписи, в основном, в регионах, что повысило вашу известность. Почему же на заседании «пятерки» было названо не ваше имя?***

— Вы абсолютно правы, когда приводите эти факты. Правда, отчасти на решение повлияло то, что в день заседания «пятерки» были еще неизвестны результаты сбора подписей. Окончательные итоги Центризбирком огласил лишь 25 июля. Тогда мы не знали, что только двое из нас преодолели стотысячный рубеж. И Чигирь, и Калякин, и Козловский заявляли, что у них есть необходимое количество подписей. У меня, например, не было оснований не верить им. Как вы знаете, заседание «пятерки» длилось пять часов. Мы откровенно обсуждали достоинства и недостатки друг друга. Позиция большинства участников была такова, что наиболее оптимальной на данном этапе кампании является кандидатура Гончарика. Конечно, была угроза того, что мы не договоримся. Нас всячески подталкивали к этому. Накануне встречи «пятерки» была запущена серия слухов, ставящих под угрозу возможность того, что мы вообще можем договориться. И направлены они были, прежде всего, против меня. Я и моя команда расценили это не иначе как попытку столкнуть лбами участников «пятерки». Поэтому для меня было важнее в тот момент сохранить единство. Всю свою жизнь я стремился подчинять свои собственные интересы, амбиции интересам дела, общества. Так было во время референдума в ноябре 1996 г., когда я мог бы, поддержав Лукашенко, остаться на теплом и непыльном месте депутата Палаты представителей. Но я понимал, что политика президента ведет страну к тупику. Поэтому я выступил противник этой политики, отказался пойти в Палату, предпочел стать безработным, попал в немилость к высшей власти. Так и теперь — ради единства всех здоровых сил общества, широкой гражданской коалиции, ради спасения Беларуси от продолжения нынешнего кошмара, ради нашей общей победы над силами зла, я уступил на этом этапе.

***— Я знаю, что в вашей команде не все были согласны с таким решением. Это не вызвало в штабе недовольства?***

— Действительно, многие члены моей команды считают решение «пятёрки» несправедливым и ошибочным. Они высказывают серьезные упреки в мой адрес за то, что я согласился на такой исход заседания. Моих сторонников можно понять. Они прекрасно видели, как работали команды других претендентов. Да и результаты сбора подписей очень показательны. Кроме того, наш штаб буквально забросали факсами региональные представительства партий и общественных объединений – они протестуют против решения «пятёрки». Так что не всё так просто и однозначно, как некоторым кажется.

***— Так вы сходите с дистанции?***

— Конечно, нет. На встречах «пятерки», которые прошли уже после объявления предварительных результатов сбора подписей, мы условились, что я, и Гончарик идем на регистрацию.

***— На каких принципах будет формироваться штаб единого кандидата?***

— Сейчас идут консультации о принципах формирования штаба. Думаю, его костяк составит уже существующий штаб Гончарика. Конечно, он будет усилен за счет команд Чигиря, Козловского и Калякина. Несколько человек будут делегированы и из моего штаба. Но моя команда остается работать со мной. Я бы хотел это подчеркнуть, поскольку в последнее время в печати появилась информация, будто бы я бросаю всё и перехожу в штаб Гончарика ответственным по Гродненской области. Это ложь. Я недавно обратился к членам моей инициативной группы, к моим сторонникам с призывом не опускать руки. Мы продолжаем участвовать в кампании. Да и проверка подписей и их защита - очень ответственная работа. Важно не только собрать подписи, но и отстоять их, чтобы быть зарегистрированным. Поэтому сейчас мы сконцентрировали внимание именно на этой работе.

***— Какая же теперь тактика вашей команды?***

— Окончательное решение будет принято после регистрации кандидатов. Сейчас много неясного. Посмотрим, кого зарегистрируют, какая политическая конфигурация получится через две недели. Тогда мы с Владимиром Гончариком примем согласованное окончательное решение о тактике дальнейшей борьбы. Кроме того, «пятерка» приняла решения о запасных сценариях, которые обнародовать пока не пришло время. А пока мы продолжаем кампанию. Я призываю всех своих сторонников быть в состоянии повышенной мобилизации. Борьба за освобождение Беларуси от «эскадронов смерти» еще только началась. Главная схватка еще впереди.

**Михаил КАРНЕВИЧ**

# Дзейнічаюць «брудныя тэхналогіі»

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

У заяве сцвярджаецца аб прымяненні так званых «брудных тэхналогіяў» у адносінах да ініцыятыўных групаў Міхаіла Марыніча, Паўла Казлоўскага, Міхаіла Чыгіра, Леаніда Сініцына, аб фактах ціску ўладаў на выбаршчыкаў з мэтай запалохаць людзей і прымусіць адклікаць свае подпісы, пастаўленыя за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты.

У дакуменце звяртаецца ўвага на рэгламент выступленняў кандыдатаў падчас агітацыі ў электронных сродках масавай інфармацыі, які ўшчамляе іх правы. «У Беларусі не будзе ні тэледэбатаў, ні прамых эфіраў, ні каротkіх інфармацыйных сюжэтаў. На тое, каб выбаршчыкі змаглі пазнаёміцца з кандыдатамі, з прапанаванымі праграмамі, ім будзе адведзена ўсяго два разы па паўгадзіны на радыё і тэлебачанні, прычым толькі па будніх днях. На тэлебачанні, напрыклад, з 18.30 да 19.30 — гэта час, калі большасць выбаршчыкаў толькі вяртаецца дадому. Кандыдат не можа ні скласці ўласны план выхаду інфармацыйных матэрыялаў у СМІ, ні ўплываць на якасць здымак і запісаў. Пры гэтым дзеючы прэзідэнт, зразумела, будзе прысутнічаць у эфіры з раніцы да вечара ў кожным выпуску навінаў», — гаворыцца ў заяве. Адзначаецца, што падобныя парушэнні адбываюцца пад пільным наглядам Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэферэндумаў, якая, аднак, нават не робіць спробаў умяшацца ў гэтыя працэсы, патрабаваць выконваць заканадаўства.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Прафсаюзы супраць кіраўнікоў БТ

Прафсаюзнае бюро Дырэкцыі перспектыўнага вяшчання першага нацыянальнага тэлевізійнага канала прыняло заяву ў сувязі з чарговай зменай кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі (НДТРК).

Як зазначаецца ў заяве, з прыходам на пасаду старшыні кампаніі Валерыя Скварцова, які нямала гадоў аддаў радыё і тэлебачанню, многія спадзяюцца на «якасныя змяненні як у самім вяшчанні, гэтак і ў псіхалагічным клімаце ў калектыве». Год таму, нагадваюць аўтары заявы, прадстаўляючы тагачаснае кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі, прэзідэнт А.Лукашэнка сказаў, што калі гэтая каманда не справіцца з работай, то пойдзе ў адстаўку ў поўным складзе. За мінулы год, як зазначаецца ў заяве, пад прыкрыццём арганізацыйных і творчых змяненняў адбылося разбурэнне тэлебачання. З экрана неабгрунтавана зняты праграмы сацыяльна-эканамічнай скіраванасці, мастацка-асветнага, маладзёжнага, дзіцячага вяшчання. «Без тлумачэнняў былі адхіленыя ад эфіру дзесяткі найбольш спрактыкаваных прафесіяналаў. Пры гэтым праекты новых перадачаў, прапанаваных імі, не прымаюцца да разгляду або іх ідэі крадуцца са згоды адміністрацыі. Разам з тым ільвіная доля неінфармацыйнага вяшчання без усялякіх падставаў перададзена некалькім недзяржаўным тэлекампаніям, за што кіраўніцтва БТ плаціць ім непамерныя грашовыя сумы», — гаворыцца ў заяве.

Прафбюро дырэкцыі перспектыўнага вяшчання, якое аб'ядноўвае практычна ўсіх творчых супрацоўнікаў першага нацыянальнага канала, выказвае недавер першаму намесніку старшыні НДТРК Ягору Рыбакову, генеральнаму прадзюсеру Ягору Хрусталёву, генеральнаму дырэктару Аляксандру Дамарацкаму і патрабуе праверкі фінансавай дзейнасці кіраўніцтва НДТРК у плане работы з недзяржаўнымі тэлекампаніямі. Прафбюро таксама пакідае за сабою права звярнуцца ў суд з іскам па фактах парушэнняў нормаў працоўнага заканадаўства і фінансавай дысцыпліны. Аўтары заявы прапаноўваюць дэмакратычна абраць мастацкі савет першага нацыянальнага канала ў адпаведнасці з існуючым палажэннем і стварыць грамадскі назіральны савет для кантролю за выкананнем прынцыпаў журналісцкай этыкі, правоў грамадзянаў на атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі з удзелам прадстаўнікоў творчых саюзаў і грамадскіх арганізацыяў краіны.

**Уладзімір ГЛОД**

# Народная Грамада падтрымала адзінага

27 ліпеня Выканаўчае бюро БСДП (Народная Грамада) падтрымала рашэнне «пяцёркі» дэмакратычных прэтэндэнтаў у прэзідэнты вылучыць адзінага кандыдата – старшыню Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзіміра Ганчарыка.

Падсумоўваючы вынікі ўдзелу Народнай Грамады ў кампаніі па зборы подпісаў, кіраўніцтва партыі пакрэсліла, што за дэмакратычных прэтэндэнтаў збіралі подпісы звыш 4,5 тысячы партыйцаў, прычым значная частка іх працавала менавіта на У.Ганчарыка. Выканаўчае бюро БСДП мае намер распрацаваць дакумент «Наказ БСДП для адзінага дэмакратычнага кандыдата».

Разам з тым Народная Грамада заяўляе пра «небяспечнасць правядзення Кангрэса дэмакратычных сілаў у крытычны для Беларусі час». Як вядома, аргкамітэт прызначыў правядзенне 5 Кангрэса дэмакратычных сілаў на 18 жніўня, калі будзе завершаная рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты. «Мы лічым, што правядзенне Вашага Кангрэса ўтварае рызыку рэвізії ўжо дасягнутых пагадненняў аб нашым адзінстве на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Выканаўчае бюро БСДП заклікае арганізацыі-ўдзельнікі КРДС адмовіцца ад правядзення свайго Кангрэса дэмакратычных сілаў у жніўні бягучага года. Мы прапануем Вам правесці пасля рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты Форум шырокай грамадзянскай кааліцыі ў падтрымку адзінага кандыдата, а ўзначаліць працу па яго падрыхтоўцы прапануем даручыць кіраўніцтву руху «За новую Беларусь». Толькі Форум, дзе павінны быць прадстаўлены не толькі правацэнтрысцкія, але і ўсе асноўныя дэмакратычныя арганізацыі, можа паспрыяць захаванню і ўмацаванню адзінства дэмакратычных сілаў рознай скіраванасці», — гаворыцца ў звароце Выканаўчага бюро БСДП да Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў.

**Алесь БУЙНЫ**

# «Галасаваць за Лукашэнку – станавіся!»

## Афіцэраў накачаюць прапагандай напярэдадні выбараў

*На 24 жніўня прызначанае правядзенне другога Усеармейскага афіцэрскага сходу Узброеных Сілаў Беларусі. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення выхаваўчай працы і інфармацыі палкоўнік Уладзімір Сераштан.*



Фота IREX/ProMedia

Першапачаткова планавалася правесці сход 10 жніўня – за месяц да выбараў, але потым тэрміны правядзення былі ссунутыя бліжэй да 9 верасня. Афіцыйна гэта матывуецца, па словах У.Сераштана, неабходнасцю дадатковай падрыхтоўкі да буйнамаштабных аператыўна-тактычных вучэнняў Узброеных Сілаў, якія пройдуць у Беларусі з 26 жніўня па 3 верасня пад назвай «Нёман».

Як вядома, гэтыя вучэнні, якія пройдуць у такіх маштабах упершыню ў гісторыі незалежнай Беларусі, былі наладжаныя «ў адказ» на манеўры войскаў у суседняй Латвіі. Як паведамляе міністэрства абароны Беларусі, комплексныя аператыўна-тактычныя вучэнні Узброеных Сілаў, а таксама іншых войскаў і вайсковых фармаванняў будуць праводзіцца на Гожаўскім, Даманаўскім, Абуз-Лясноўскім, Дрэтуньскім, Палескім і Ружанскім палігонах Беларусі. Магчыма, што да ўдзелу ў іх далучацца часткі міністэрстваў унутраных справаў, памежных і чыгуначных войскаў.

Падрыхтаваць афіцэраў да такой падзеі, канешне, вельмі важна. Але ўжо цяпер відавочна: увага прысутных на сходзе 550 дэлегатаў з усіх гарнізонаў Беларусі будзе прыцягнутая да прэзідэнцкіх выбараў.

Хутчэй за ўсё, ад кожнага афіцэра запатрабуюць не толькі прыйсці самому на выбарчы ўчастак разам з сям'ёй і прагаласаваць за Саміведаецекага, але і пракантраляваць, каб усе падначаленыя – салдаты і афіцэры – паклалі ў скрыню выбарчы бюлетэнь з гэтым самым прозвішчам. У адрозненне ад слабахарактарных цывільных, афіцэры – людзі службовыя, да загадаў звычныя. Таму і патрабаваць ад іх можна шмат. Напрыклад, каб 99,9% галасоў было пададзена за адну вядомую асобу. Інакш – рэпрэсіі.

Але каб службовыя не сумняваліся ў правільнасці «свайго» выбару, неабходна правесці з імі тлумачальную працу. Нагадаць пра ўсе тыя даброты, якія афіцэр мае цяпер ад беларускай дзяржавы і якіх ён нібыта пазбавіцца пасля прыходу да ўлады «дзермакратаў», чарговы раз паабяцаць кватэру і падвысіць заробак, уважліва выслухаць скаргі на побытавыя і службовыя праблемы і паабяцаць разабрацца з імі – пасля выбараў, натуральна. Вайскоўцы – яны ж, як дзеці: ім паабяцаюць – а яны і павераць...

Колькі часу ўжо вераць беларускія афіцэры ў светлую будучыню з уласнай кватэрай і нармальным заробкам... А тым часам улада ўсё больш умацоўвае матэрыяльны дабрабыт міліцыі і спецслужбаў. Бо байца больш не знешняга ворага (ды ці ёсць ён у Беларусі сёння?), а ўласнага народа.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Суд над «алмазаўцам» павінен быць адкрытым

Кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ Ханс-Георг Вік назваў апублікаваныя ў СМІ дакументы, што сведчаць аб датычнасці вышэйшых службовых асобаў Беларусі да знікнення Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага, «вельмі складанай праблемай і для ўсёй краіны, і для асобаў, якія займаюць адказныя дзяржаўныя пасады».

«Будзе страшнай трагедыяй, калі факты, выкладзеныя ў апублікаваных дакументах, адпавядаюць ісціне», — лічыць Вік. Ён зазначыў, што АБСЕ «заўсёды заклікала ўлады Беларусі правесці поўнае расследаванне справаў і апублікаваць вынікі атрыманых расследаванняў у прэсе».

Кіраўнік місіі АБСЕ ў Беларусі таксама выказаў меркаванне, што суд над былым супрацоўнікам спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыем Ігнатовічам, які абвінавачваецца ва ўчыненні шэрагу цяжкіх злачынстваў, у тым ліку выкрадзенні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, павінен быць адкрытым. «Таму што частковы або абмежаваны доступ да гэтага працэсу выклікае яшчэ больш сумненняў», – сказаў Ханс-Георг Вік.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

# «Тройка» контролирует ситуацию

31 июля в Минск для изучения внутриполитической ситуации накануне президентских выборов прибыла «тройка» Парламентской ассамблеи Совета Европы. Руководитель Политического комитета ПА СЕ Терри Девис, докладчик по Беларуси Политического комитета Вольфганг Берендт и докладчик Комитета по юридическим вопросам и правам человека Кирилл Свобода до 3 августа намерены провести ряд встреч с представителями официального Минска и оппозиции.

По приезде «тройка» ПА СЕ встретилась с дипломатическим корпусом, аккредитованным в Минске, и министром иностранных дел Беларуси Михаилом Хвостовым. Можно предположить, что разговор с главой внешнеполитического ведомства был весьма жестким, поскольку, несмотря на принципиальное решение направить международных наблюдателей на президентские выборы, официальный Минск не направил официальных приглашений в ПА ОБСЕ, ПА СЕ и Европарламент, которые составляют "европейскую тройку". Якобы Беларусь согласовывает "некоторые технические вопросы". Пресс-секретарь МИД Беларуси Павел Латушко заявил: «Это связано с тем, что на прошлогодних парламентских выборах, когда Беларусь направила приглашения всем европейским институтам и названным организациям с просьбой прибыть в Беларусь для наблюдения за парламентскими выборами, названные организации не приняли решения о направлении своих наблюдателей. Поэтому для нас очень важно, чтобы эта позиция была высказана вначале названными организациями. А Беларусь выполнит свои обязательства и приглашения направит». Весьма сомнительная аргументация, особенно если учесть, что приглашения в страны СНГ давным-давно уже разосланы.

Сегодня «тройка» ПА СЕ встречается с потенциальными кандидатами в президенты (неизвестно, будет ли среди претендентов Александр Лукашенко, он же действующий глава Беларуси), независимыми наблюдателями и руководителем Совета республики Александром Войтовичем. 2 августа «тройка» встречается с лидерами политических партий, «третьего сектора», председателем Центризбиркома Лидией Ермошиной. Визит «тройки» ПА СЕ завершится пресс-конференцией утром 3 августа.

Фактически вопрос о направлении международных наблюдателей на выборы 9 сентября уже решен на июльской четвертой технической конференции в Вене. Поэтому нынешний визит «тройки» ПА СЕ преследует цель лично убедиться в ситуации накануне президентских выборов. Правда, возможна ситуация, что международным наблюдателям не удастся наблюдать за выборами, если официальный Минск не пригласит международных наблюдателей – к этому все идет. Хотя приглашения рассылает Верховный Совет 13 созыва, это является чисто символическим актом, поскольку парламент не имеет власти в стране. А нежелание белорусских властей принимать международных наблюдателей уже очевидно.

**Рыгор БУЯН**

# Нагадаць злачынцам пра адказнасць

1 жніўня ў 15.00 сваякі і блізкія ахвяраў рэжыму: зніклых Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, тэлеаператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13 скліканя Андрэя Клімава ды Валерыя Шчукіна, якія знаходзяцца за кратамі, — пікетуюць адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі. Як вядома, 13 ліпеня адзіны прэтэндэнт ад шырокай грамадскай кааліцыі Уладзімір Ганчарык абнародаваў шэраг дакументаў, паводле якіх непасрэднае дачыненне да знікнення прадстаўнікоў апазіцыі і магчымай фізічнай ліквідацыі мелі вышэйшыя дзяржаўныя асобы Беларусі. Апрача выказвання А.Лукашэнкі пра «кучу мусора», ніякай афіцыйнай рэакцыі на выбуховыя дакументы не паследавала. Сваякі і блізкія ахвяраў рэжыму яшчэ раз запатрабуюць ад А.Лукашэнкі адказу пра лёс зніклых.

2 жніўня ў 16.00 рэзідэнцыю А.Лукашэнкі будуць пікетаваць дэпутаты Вярхоўнага Савета 13 склікання. Яны падтрымаюць сваіх калегаў па парламенце Андрэя Клімава і Валерыя Шчукіна, якія знаходзяцца за кратамі.

**Рыгор БУЯН**

# Гродзенскія ветэраны за Домаша

Кіраўніцтва Гродзенскага гарадскога грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сілаў лічыць, што вылучэнне Уладзіміра Ганчарыка адзіным апазіцыйным прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта з'яўляецца «памылковым рашэннем і вялікім пралікам».

Як адзначаецца ў заяве, распаўсюджанай 31 ліпеня радай аб'яднання ветэранаў, «лідэр афіцыйных прафсаюзаў» Уладзімір Ганчарык за гады кіравання Аляксандра Лукашэнкі «не вызначыўся як палітык, не збліжаўся з тымі, хто змагаўся за правы чалавека». «Ганчарык мае невялікі шанц быць абраны прэзідэнтам», — лічаць аўтары заявы.

Як паведаміў БелаПАН старшыня рады аб'яднання Мікалай Мельнікаў, ветэраны і ахвяры палітычных рэпрэсіяў «з болем у сэрцы ўспрынялі магчымы няўдзел у прэзідэнцкіх выбарах Сямёна Домаша». «Сямён Домаш, — лічыць ён, — абавязаны працягваць удзел у выбарчай кампаніі. Ветэраны ўпэўненыя, што ён пераможа».

**Павел МАЖЭЙКА**

# «Пачакутэк» прынёс ахвяры боствам

*Перу – гэта адна з краінаў Лацінскай Амерыкі, куды Беларусь прадавала свае самалёты, а можа і розную другую зброю. Цяпер Перу падае нашай уладзе ўзор дэмакратычных выбараў і стаўлення да нацыянальнай культуры, найперш да мовы карэннага насельніцтва.*



Гэтымі днямі пасля цырымоніі ўступлення на пасаду першы прэзідэнт Перу індзейскага паходжання 55-гадовы Алехандра Таледа Манрыке прыняў удзел у сімвалічным рытуале, які мусіў нагадаць насельніцтву краіны пра яе мінуўшчыну.

Экзатычны па сённяшніх паняццях рытуал адбыўся ў цытадэлі інкаў Мачу-Пікчу, куды А.Таледа прыбыў на верталёце разам са сваімі гасцямі – прэзідэнтамі Чылі Рыкарда да Лагосам, Коста-Рыкі Мігелем Анхелем Радрыгесам, прынцам Астурыйскім Феліпа дэ Бурбонам, а таксама ізраільскім міністрам замежных справаў Шыманам Перасам.

Вешчуны кечуа ў Маку-Пікчу падпыхвалі лісце кокі ды іншыя традыцыйныя прысмакі, якія былі прапанаваныя новым прэзідэнтам у якасці ахвяры старадаўнім боствам, каб яны ахоўвалі яго ад нячыстай сілы.

Прыбыцця прэзідэнта чакаў натоўп мясцовых жыхароў у святочным нацыянальным адзенні, якія пелі традыцыйныя абрадавыя песні і выконвалі традыцыйныя танцы. Яны называюць новага прэзідэнта «Пачакутэк» – імем аднаго з праваднікоў інкаў у XV стагоддзі. Прэзідэнт заявіў, што мае намер уключыць у школьную праграму мовы індзейцаў кечуа і аймара, каб выправіць шматвяковую несправядлівасць.

Алехандра Таледа адрозніваецца ад тыповых прадстаўнікоў мясцовай палітычнай эліты. Ён нарадзіўся ў шматдзетнай беднай сям'і індзейцаў кечуа ў мястэчку Кабаньня-дэ-Анкаш у Андах. Таледа быў пастухом, вулічным гандляром, афіцыянтам. Дзякуючы ўпартасці скончыў сярэднюю школу і дамогся стыпендыі для вучобы ў Стэнфардскім універсітэце ў ЗША. Набыўшы спецыяльнасць эканаміста, займаўся навуковымі даследаваннямі ў Гарвардскім універсітэце, працаваў у структурах міжнародных арганізацыяў, у тым ліку ААН і Сусветнага банка.

Са сваёй жонкай пазнаёміўся ў студэнцкія гады. Эліан Карм – амерыканка франка-бельгійскага паходжання. Па спецыяльнасці яна антраполаг. Валодае сямю мовамі, у тым ліку і мовай кечуа, шмат гадоў займалася рэалізацыяй у Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы праграмай развіцця ААН.

На выбарах Алехандра Таледа абышоў свайго суперніка і стаў легітымным ачольнікам дзяржавы на перыяд з 2001 па 2006 год. Дзесяткі тысяч прыхільнікаў Таледа святкавалі трыумф, скандуючы «Пачакутэк вяртаецца». Прэзідэнт, звяртаючыся да іх, адзначыў: «Разам мы ўвасобім мару пра Перу як краіну без карупцыі, дзе пануюць справядлівасць, роўнасць і дэмакратыя. Цяпер мы пабудуем сучасную нацыю, але такую, якая шануе сваю старажытную спадчыну і сваю самабытнасць».

Гэтакая палітыка прэзідэнта Перу, відаць, станоўча паўплывае на рух індзейцаў Лацінскай Амерыкі за пашырэнне свайго ўдзелу ў грамадскім і палітычным жыцці і культурнае адраджэнне. На жаль, у нашай краіне ўлада прытрымліваецца адваротных поглядаў, скіраваных на зруйнаванне самабытнасці і выцісканне ў лік «мёртвых» мовы тытульнай нацыі. Можна меркаваць, што ў гэтых адносінах нам неўзабаве прыйдзецца вучыцца павазе да культуры ў сённяшніх інкаў і кечуа.

**Стась ЧАРОПКА**

# Ярашук вызначыцца пасля рэгістрацыі

Былы патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты старшыня прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Аляксандр Ярашук абвінавачвае выканаўчую ўладу ў ціску на сябраў сваёй ініцыятыўнае групы. У заяве для прэсы 30 ліпеня А.Ярашук заявіў, што «кампанія па зборы подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты праходзіла ва ўмовах беспрэцэдэнтнага ціску і шантажу ў адносінах да ўдзельнікаў ініцыятыўных групаў». «У масавым парадку зборшчыкаў подпісаў наведалі супрацоўнікі КДБ і прадстаўнікі мясцовай улады. У выніку 28 тысячаў сабраных подпісаў (паводле звестак ініцыятыўнае групы, у падтрымку А.Ярашука сабрана 103 тысячы подпісаў, хаця ў Цэнтрвыбаркам перададзеныя толькі 76.312 подпісаў. – **Р.Б.**) не былі перададзеныя ў выбарчыя камісіі. Аналагічная сітуацыя, наколькі мне вядома, і ў некаторых іншых кандыдатаў. Безумоўна, мы вінаваціць перш за ўсё сябе: трэба было быць гатовым да самых наглых дзеянняў уладаў», – заявіў Аляксандр Ярашук.

У звязку з гэтым А.Ярашук заявіў, што «безумоўным благам для Беларусі будзе сыход Лукашэнкі і перамога кандыдата ад дэмакратычных сілаў. Заклікаю сваіх старонікаў зрабіць такі ж выбар». Між тым, сам прэтэндэнт вызначыцца з падтрымкай таго ці іншага кандыдата толькі пасля іх рэгістрацыі. «Я падтрымліваю кандыдата ад дэмакратычных сілаў. Напярэдадні яшчэ працэс рэгістрацыі; што там будзе – пажывём убачым. Я думаю, што на сённяшні дзень гэта самая разумная пазіцыя. Застанецца Ганчарык – значыць, будзе Ганчарык; не застанецца Ганчарык, а будзе Домаш – значыць, будзе Домаш. Не пройдуць рэгістрацыю ні той, ні другі – узнікне новая абсалютная сітуацыя. Я лічу, што трэба галоўную задачу бачыць, а не прывязваць працэс да асобна ўзятага чалавека, тым больш на гэтым этапе, калі невядома, хто пройдзе рэгістрацыю. Як і ўсе астатнія, я канчаткова вызначуся пасля рэгістрацыі», – заявіў А.Ярашук. Аднак у любым выпадку Аляксандр Ярашук «з палітыкі сыходзіць не збіраецца».

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

# Засыпаліся на цукры

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*







Зрэшты, гэтых адставак можна было чакаць. Як нагадвае агенцтва БелаПАН, яшчэ 27 ліпеня на нарадзе па выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны ў першым паўгоддзі А.Лукашэнка рэзка крытыкаваў работу сённяшніх «адстаўнікоў» у сувязі з праблемамі, што ўзніклі з пастаўкай і рэалізацыяй цукру. Па словах кіраўніка дзяржавы, у передвыбарных умовах гэтая праблема набывае палітычны характар. «Навошта стваралі паўтара месяца таму гэтую праблему? Яе ж ператварылі, гэтую праблему, у палітычную праблему. Што, мы гэтага не разумеем? Ну а, можа быць, у некага і вялікая палітыка была: вось, маўляў, паглядзіце, як ён кіруе дзяржавай», — сказаў А.Лукашэнка. Звяртаючыся да прэм'ер-міністра Уладзіміра Ярмошына, ён заявіў, што не лічыць магчымым далейшае знаходжанне В.Уладыкі, П.Казлова і І.Шаколы на займаемых пасадах.

Пажаданне кіраўніка краіны – закон для прэм'ер-міністра. Тым больш, што «за сахар» цалкам магла паляцець і прэм'ерская галава. Аляксандр Лукашэнка як ніхто разумее: хатнія гаспадыні і пенсіянеры, якія складаюць большую частку ягонага электарату, могуць яму даравац што заўгодна – жабрацкае жыццё, прыніжэнні, нават выкраданні і забойствы няўгодных людзей. Але калі па любых прычынах будзе сарваная нарыхтоўка варэнняў, налівак і настоек – чакай народных хваляванняў. Людзі ў чэргах перамыюць усе костачкі кіраўніцтву краіны, і гэта не можа не адбіцца на выніках галасавання на прэзідэнцкіх выбарах.

Насамрэч, чыноўнікі-адстаўнікі могуць радавацца, што абышлося без «пасадак». Як вядома, ва ўмовах ваеннага часу за сабатаж можна і да сценкі стаць. У нас, канешне, вайна не ідзе, але ідзе перадвыбарная кампанія, і падчас яе А.Лукашэнка цацкацца не збіраецца. Ён не даруе нікому і нічога.

Адзначым таксама, што звольненыя чыноўнікі – не навічкі ва ўладзе. І Пётр Казлоў, і Віктар Уладыка (які, дарэчы, мае статус міністра) ачольвалі свае ведамствы не менш чым па пяць гадоў. Іван Шакола тры гады працаваў намеснікам міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава, пасля арышту свайго начальніка ў 1997 годзе перасеў у ягонае крэсла, кіраваў гэтым міністэрствам год, пасля невялікай паўзы ачоліў «Белхарчпрам». За гэты час усім тром неаднаразова даводзілася стаяць навыцяжку перад А.Лукашэнкам і выслухоўваць ягоныя незадаволеныя крыкі. Кіраўнік дзяржавы адчытваў міністраў, як дзяцей, нягледзячы на істотную розніцу ва ўзросце. У 1997 годзе на падставе пастановы калегіі Камітэта дзяржкантролю «за сур'ёзныя хібы ў працы, якія праявіліся ў неналежным выкананні службовых абавязкаў па забеспячэнні насельніцтва прадуктамі харчавання, што пацягнула беспадстаўны рост цэнаў на іх», П.Казлоў і В.Уладыка былі строга папярэджаныя. Але свае пасады захоўвалі да пазаўчарашняга дня.

Трэба разумець, што, нягледзячы на шматлікія хібы, якія сапраўды існавалі і існуюць у сістэме гандлю, у тым ліку і ў крамах Белкаапсаюза, гэтыя людзі ведалі сваю справу. Таму іх і трымалі на сваіх пасадах, хоць распякалі ледзьве не на кожнай нарадзе. Але цяпер чыноўнікаў адкінулі ўбок.

Што ж датычыць уласна цукру, то цяпер ім забітыя ўсе крамы. Прычым, як кажуць, «пад завязку». У буйных крамах пакеты з цукрам займаюць адразу па некалькі паліцаў, ды яшчэ ля выхаду стаяць кантэйнеры з ім – відаць, для тых, хто раптам забыўся набыць.

Такім чынам, пакуль што цукровая праблема вырашаная. Але ці будзе яна апошняй у краіне, дзе ўсё зарэгулявана да апошняй ступені? І колькі яшчэ разоў мы да выбараў пачуем новыя перлы ад аўтара бессмяротнага афарызма «только взялся за яйца, как исчезло масло»?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Зарплаты растуць, а людзі бяднеюць

35,1% насельніцтва Беларусі маюць даход на кожнага члена сям'і ніжэйшы, чым бюджэт пражытачнага мінімуму (БПМ). На сённяшні дзень, па разліках Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, БПМ складае прыкладна 45 тысячаў рублёў па чэрвеньскіх цэнах. Стаўка 1 разраду, якая, паводле Генпагаднення на 2001-2003 гады, мусіць быць не ніжэй за 35% БПМ, ці 15,8 тысячы рублёў, раўняецца 14,5 тысячы рублёў, ці амаль на 9% ніжэйшая. Такія лічбы прагучалі на паседжанні савета ФПБ 26 ліпеня.

На фоне мэтанакіраванай палітыкі ўрада на павышэнне заробкаў з 1 жніўня да 100 долараў ЗША гэтая сумная статыстыка гучыць дысанансам. Відавочна, што жаданне любым коштам даць пад выбары абяцаныя 100 долараў вядзе беларускую эканоміку ў багну. Рэнтабельнасць вытворчасці застаецца на ўзроўні 9,9%, што не забяспечвае звычайнага ўзнаўлення; дэбіторская і крэдыторская запазычанасці прадпрыемстваў не паніжаюцца, а плацежаздольнасць прадпрыемстваў імкліва падае. Па сутнасці, цэлыя галіны народнай гаспадаркі з'яўляюцца банкрутамі. Агульная колькасць стратных прадпрыемстваў сягнула да адзнакі 38,2%. Існуючыя – не самыя вялікія, мякка кажучы, — заробкі не выплачваюцца своечасова і ў поўным аб'ёме, а цэны растуць хутчэй, чым гэта прагназавалася. У сярэднім у месяц інфляцыя складае 3,4%.

**Рыгор БУЯН**

## У Брэсцкай вобласці крадуць дызпаліва з трубаправодаў

620 літраў дызельнага паліва былі выкрадзеныя жыхарамі Маларыцкага раёна з трубаправода на тэрыторыі адной з воінскіх часцей у Пружанскім раёне.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, трое мужчын ва ўзросце ад 22 да 39 гадоў — двое калгаснікаў і адзін непрацуючы — прыехалі ў воінскую часць з мэтай крадзяжу саляркі, і гэта ім удалося. Аднак пры спробе вывезці дызпаліва яны былі затрыманыя супрацоўнікамі Пружанскага РАУС. Па дадзеным факце ўзбуджаная крымінальная справа.

Нядаўна спроба выкрасці дызпаліва была ажыццёўленая і ў Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці. Невядомыя прабілі трубаправод, аднак там аказалася не салярка, а сырая нафта. Да прыезду аварыйнай службы з трубаправода ў меліярацыйны канал і на прылеглае поле выцекла каля 10 тон нафтапрадуктаў. Па дадзеным факце таксама ўзбуджаная крымінальная справа, аднак зламыснікі пакуль не знойдзеныя.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН**

# Ці лёгка быць рынкавым гандляром у Беларусі?

*Гафсі Шакры ніколі не трымаў на руках і нават не бачыў сваёй дачкі, хоць дзяўчынцы хутка споўніцца годзік. Бацька вельмі любіць сваё дзіця, але больш за год жыве за сапраўднай жалезнай заслонай...*

У Беларусі не дзіва трапленне за краты замежнікаў. Але зусім не часта да праваабаронцаў звяртаюцца іх сваякі і кажуць пра парушэнне правоў іншаземных грамадзянаў. Часцей ад рэаліяў жыцця церпяць нашы суайчыннікі. За апошнія гады незаконныя затрыманні, нават несправядлівыя прысуды сталі для беларуса звыклай рэччу. Гэткай «ненармальнай нормай» жорсткай рэальнасці. Нікога і не дзівіць, што многія маладыя беларусы імкнуцца пакінуць Радзіму, часова ці стала, з надзеяй на лепшае жыццё.

***Аднак усё наадварот у гэтай жыццёвай гісторыі. Замежнік прыязджае на Беларусь, распачынае бізнес, знаходзіць асабістае шчасце, звязвае з нашай краінай лёс...***

Гафсі Шакры Бен Хамда – грамадзянін Туніса. У гэтай краіне жывуць яго бацькі, а вось брат і сястра — у Францыі. Сам Гафсі вырашыў прыехаць жыць у Беларусь услед за земляком, з якім ліставаўся пасля ад'езду таго за мяжу Туніса. Сябар-эмігрант распавядаў пра адчыненую ў Мінску ўласную справу, шлюб з беларускай, добрае жыццё. Дус (так звалі сябра) прапаноўваў Гафсі таксама ехаць сюды: калі што – дапаможа ўладкавацца. Прапанова была прынятая. Афіцыйнае запрашэнне ў Беларусь аформіла тутэйшая жонка Дуса. У 1996-м годзе землякі сталі разам гандляваць на Камароўскім рынку. Шакры неўзабаве ўжо меў від на жыхарства ў Беларусі. Праз паўтара года ён пазнаёміўся і са сваёй будучай жонкай Юліяй.

Пасля разыходу кампаньёнаў справы ў Шакры пайшлі лепш, чым у сябра-земляка. Неўзабаве яны ўжо не былі ранейшымі сябрамі-прыяцелямі. Той, каго нядаўна «выцягнулі» ў гэты горад і гэтую краіну з гістарычнай радзімы на поўначы Афрыкі, цяпер намерваўся перайсці дарогу ў якасці канкурэнта, не кажучы «дзякуй» за мінулае. Так, ці прыблізна так, разважаў былы сябар — Дус. Менавіта зайздрасць, лічыць Юля, і была пачаткам. Яна згадвае: мужу пагражалі невядомыя людзі, яго папярэджвалі пра магчымыя непрыемнасці, прапаноўвалі з'ехаць у замежжа. Але Гафсі не хацеў нікуды з'язджаць. Першы гром грымнуў 5 траўня 2000 года. У той дзень Шакры затрымаў нарад міліцыі. Нічога незвычайнага: праверка дакументаў. Гэтаксама міліцыя спраўджвае асобы ці не ўсіх мінакоў, чарнявасць, смуглявасць ці гаворка якіх сведчаць пра паходжанне аднекуль з Поўдня. Пасведчанне асобы Шакры было ў парадку, і хвалявацца не было чаго. Аднак вынік стаўся нечаканым: міліцыя забрала яго дакументы. А 23 траўня Шакры арыштоўваюць. Па словах яго цяперашняга адваката, падставы для арышту дагэтуль выклікаюць пытанні. Ніякіх пісьмовых прэтэнзіяў, ніякіх заяваў на Шакры ў міліцыі не аказалася. Што зусім не перашкодзіла аператыўна прад'явіць арыштанту цяжкае абвінавачанне: махлярства ў асабліва буйных памерах. Так туніскі грамадзянін апынуўся ў следчым ізалятары, вядомым як «Валадарка».

### Падзеленыя кратамі

На момант затрымання Гафсі яго жонка была на восьмым месяцы цяжарнасці. Спадзявалася, што разбяруцца хутка і да нараджэння будучага дзіцяці яго тату выпусцяць на волю. Але... Ні пра якія дэкрэтныя адпачынкі не магло ісці і гаворкі. У раддом Юля паехала проста з працоўнага месца, а яшчэ праз тры тыдні вярнулася на працу.

Трохмесячны тэрмін зняволення падследнага Гафсі Шакры Бен Хамды чатыры разы працягваўся на тры месяцы. Чалавеку, які знаходзіцца пад вартай, закон дазваляе мець спатканні з роднымі. Таму, чыя віна не даказана судом – з дазволу следчага ці суддзі. Вопытныя юрысты кажуць, што звычайна пад канец следчага працэсу пабачыцца з роднымі падследным асобам дазваляюць. Юлі з мужам – чамусьці не дазволілі. Трох кароткіх сустрэчаў жонка вязня змагла дабіцца толькі праз год, ужо падчас судовага працэсу. Не далі дазволу на сустрэчу нават роднаму брату, які прыехаў пабачыць Гафсі з Францыі. Яшчэ горш беларуская Феміда абышлася з бацькамі замежнага зняволенага. Ажно паўгода яны не ведалі, што іх сын знаходзіцца ў турме. Амбасады Туніса ў Мінску няма, і паўгода Юля тэлефанавала ў Маскву, просячы тамтэйшых туніскіх дыпламатаў паведаміць сваякам мужа пра няшчасце. У амбасадзе абяцалі. Пазней Юля даведалася: у туніскай амбасадзе ў Маскве працуе сваяк таго самага былога кампаньёна яе мужа, які і «падставіў» яго.

Толькі ўвосень 2000 года ўдалося звязацца з бацькамі Шакры. Прыехаў мужаў брат з Францыі і звярнуўся ў французскую амбасаду ў Мінску. Менавіта тады Юлі дапамаглі адшукаць сумленнага адваката. Брат Гафсі першым звярнуўся да беларускіх праваабаронцаў – у ПЦ «Вясна».

### Праўдзівая хлусня. Чыя?

Як вынікае з дакументаў крымінальнай справы № 725-700 (разбіральніцтва вяло Савецкае РУУС Мінска), у перыяд са студзеня 1997 па жнівень 1999 года Шакры пазычаў грошы. Прычым рабіў гэта «з




карыслівых памкненняў», «шляхам падману і злоўжывання даверам». Гаворка пра давер такіх самых рынкавых гандляроў. Грошы былі патрэбныя абвінавачваемаму для аптовых закупак тавару.

У справе фігуруюць паўтара дзесятка такіх эпізодаў. Агульная сума пазычанага за два з паловай гады – прыблізна 32 тысячы долараў. На думку абвінаваўчага боку, Шакры «не меў намеру вярнуць» гэтыя грошы. Высновы следства выглядаюць застрашваюча, прызнае абарона спадара Шакры. Але палохаюць абвінавачанні толькі чалавека, далёкага ад рынкавага гандлю.

«Сам Гафсі Шакры сцвярджае, што, сапраўды, некаторыя сумы грошай у гэтых людзей браў і ў некаторых пазычаў тавар, — распавядае адвакат. — Але не вярнуў не таму, што не меў такога намеру, а таму, што не змог. А не змог у сувязі з тым, што ў 1999 годзе ў яго была канфіскаваная буйная партыя тавару. Пасля гэтага ён вымушаны быў зноў пазычыць грошы ў некаторых грамадзянаў і збіраўся, калі бізнес выйдзе на патрэбны ўзровень рэнтабельнасці, разлічыцца з людзьмі, якім вінен. Але зрабіць гэтага не паспеў — быў затрыманы». Па трох эпізодах справы маюцца распіскі. І абвінавачваемы пацверджаных у іх фактаў пазыкі не аспрэчвае. А вось па іншых эпізодах Шакры самому цяжка назваць у судзе канкрэтныя даты, лічбы і імёны. І не таму, што чалавек безалаберны.

Кожны выпадак, калі пазычаў сам ці пазычалі ў яго, прадпрымальнік акуратна запісваў у сваім дзелавым нататніку. Тое ж самае рабілі і ягоныя калегі па «Камароўцы».

«Кожны раз, калі гандляры паміж сабой здзяйснялі ўсе гэтыя аперацыі абмену грошай і тавару, праз некаторы час бралі свае нататнікі і звяралі, хто, каму і колькі вінен грошай. Так ішло з месяца ў месяц. Але пасля канфіскацыі ў 99-м годзе буйной партыі тавару да Шакры ніхто не прыйшоў з нататнікам, каб падвесці вынікі і спраўдзіць сумы пазыкаў. Таму, знаходзячыся пад арыштам, ён нават не можа сказаць, колькі вінен нават тым канкрэтным асобам, якія прыйшлі ў суд. Ён кажа, што ў іх таксама ёсць нататнікі (і яны гэтага не адмаўляюць) і што можна такім жа шляхам, як раней, параўнаць запісы, падлічыць і вызначыць, хто, колькі і каму вінен», – кажа адвакат. Гафсі Шакры заявіў у судзе, што пасля падвядзення ўсіх вынікаў па ўзаемных пазыках ён гатовы вярнуць даўгі з дапамогаю сваякоў.

«Нататнікавыя» дзелавыя адносіны, пра якія кажа падсудны, – не нонсенс. Па словах адваката, яны «не знаходзяцца за рысай тых праваадносінаў, якія існавалі на Камароўскім рынку». Але ж і абвінавачанне ў махлярстве – не жарт. Бадай, не толькі юрыст можа зразумець усю сур'ёзнасць складу гэтага злачынства і яго актуальнасць для грамадства. Тым не менш вось назіранне практыкуючага адваката: «Апошнім часам пад махлярства падводзяцца вельмі многія грамадзянска-прававыя здзелкі. Калі няма магчымасці забраць грошы ў даўжніка, вельмі проста звярнуцца ў міліцыю, узбудзіць крымінальную справу – і няхай гэты даўжнік тады задумаецца. Гэта выкарыстоўваецца часцяком як спосаб вяртання грошай».

### Прыкарміць «савецкую» міліцыю не проста...

...а як каму пашанцуе. Земляку Шакры, падобна, пашанцавала. Былы сябра Дус, як і многія з тых, хто выступіў у судзе як пацярпелыя, працавалі на Камароўскім рынку па некалькі гадоў. «Камароўка» знаходзіцца на тэрыторыі Савецкага раёна сталіцы і, адпаведна, адносіцца да Савецкага райаддзела. Рынкавыя прадпрымальнікі стасаваліся з міліцыяй не настолькі рэдка, каб за гады працы не пазнаёміцца хоць бы з яе асобнымі прадстаўнікамі. Лёгка можна дапусціць, што канкурэнты па гандлі адмыслова з дапамогай міліцыі маглі здолець пазбавіць чалавека свабоды. Тым больш калі побач з гэтымі канкурэнтамі працуе пенсіянер МУС Іван Міхалёў — дарэчы, былы супрацоўнік менавіта Савецкага райаддзела міліцыі. Зараз гэты чалавек праходзіць па справе як сведка.

Дарэчы, від на жыхарства і пасведчанне асобы Шакры, якія супрацоўнікі міліцыі забралі пры яго затрыманні ў пачатку траўня мінулага года, таямніча зніклі. У Савецкім РУУС жонцы зняволенага сказалі, быццам бы міліцыя адразу ж па канфіскацыі дакументаў перадала іх у аддзел пашпартнавізавай службы (АПВС) Савецкага раёна. І факт гэтай перадачы пацвярджаецца адным з дакументаў справы. Але супрацоўнікі АПВС далі Юліі афіцыйны адказ, што яе муж да адміністратыўнай адказнасці не прыцягваўся і від на жыхарства ў яго не скасоўваўся. Усе спробы сваякоў знайсці зніклыя дакументы так і не далі вынікаў.

### Якія часы, такія і нравы

Умяшальніцтва дзяржавы ў рынкавыя адносіны, нестабільнасць законаў, надзяленне звышпаўнамоцтвамі міліцыі, якая без суда можа канфіскоўваць тавар на вялізныя сумы... Ды ці было такое яшчэ ў сярэдзіне 90-х?

У 99-м годзе буйная партыя тавару была канфіскаваная ў Гафсі Шакры з-за фармальных парушэнняў у яе афармленні. Сам ён згодны, што парушэнні мелі месца і яго пакаралі паводле закона. Але асобы, якія тады асабіста давалі яму тавар без накладных, сёння выступаюць у судзе ў якасці пацярпелых. З іх словаў выходзіць, што ўсе, акрамя падсуднага, вельмі праўдзівыя, купляюць тавар толькі па накладных і нават «толькі ў Германіі». Ніхто праўдзівасць тых словаў «ахвяраў» не правяраў. Між тым ясна, што, акрамя непрыязі да Шакры, гэтыя людзі кіруюцца яшчэ і страхам за свае справы: вядома, як проста ў нашай краіне пазбавіць волі прадпрымальніка. Менавіта ў пачатку 99-га года правілы афармлення тавару для рынкавага гандлю былі ўскладненыя. Прафсаюзы прадпрымальнікаў тады абураліся фармалізацыяй працэдуры і прагназавалі яе зацягванне ў кабінетах чыноўнікаў.

З «Камароўкі» пэўныя людзі з'яўляюцца найбольш аўтарытэтнымі і ўплывовымі, маюць сувязі, а значыць, могуць у выпадку чаго дапамагчы. Такім чалавекам і быў памянёны экс-міліцыянт Іван Міхалёў, калега і таварыш Дуса. Кажуць, ад Міхалёва на «Камароўцы» наўпрост залежалі многія гандляры-замежнікі, а Шакры не жадаў гэтай залежнасці. Пасварыліся Дус і Шакры, землякі-тунісцы, з-за арэнды гандлёвых месцаў – і адзін арганізаваў траўлю другога...

Крымінальная справа Гафсі Шакры дасягнула стадыі судовага разгляду ўвесну. Працэс у Савецкім судзе Мінска працягваецца і цяпер. Мяркуецца, што прысуд будзе абвешчаны недзе ў сярэдзіне жніўня. На думку айчынных праваабаронцаў, у Беларусі да 60 адсоткаў «насельніцтва» турмаў – незаконна асуджаныя. Пераважная большасць з іх асуджаныя па абвінавачаннях у эканамічных злачынствах. Ці папоўніцца гэты сумны працэнт яшчэ адным чалавекам са зламаным лёсам?

**Таццяна СНІТКО**

# Мінск. Гімнавыя прафанацыі

*Ці ведаеце вы, што ў кожнага раёна Мінска маецца свой гімн? Калі я дазнаўся пра тое, у мяне асабіста перш-наперш узнікла толькі адно, простае і кароткае, пытанне: «навошта?» А бліжэйшым часам, хутчэй за ўсё да канца года, уласны агульнагарадскі гімн дадуць і ўсёй сталіцы.*

Неяк паспешліва і навязліва прыдумляюць сёлета Мінску разнастайную гарадскую атрыбутыку. А галоўнае, дужа штучна. Абсалютна безматывавана прызначылі на першую суботу верасня Дзень горада. Абы з так званым Днём рэспублікі 3 ліпеня не супадаў. Маўляў, надвор'е, як правіла, цёплае вераснёўскай парой, і менчукі з вакацыяў і адпачынкаў у горад вяртаюцца. Даты атрымання Мінскам Магдэбургскага права і першай летапіснай згадкі праігнаравалі. У выніку прыдбанне еўрапейскасці звычайным чынам прафануецца.

Прыблізна тое самае робіцца з ідэяй даць гораду гімн. Абвешчаны Мінгарвыканкамам адмысловы конкурс на тэкст і мелодыю для яго цягнуўся каля паўгода. Паводле ўмоваў, тэкст абавязкова павінен быў быць напісаны беларускай мовай, «складацца не больш чым з трох куплетаў і адлюстроўваць у сваім змесце гісторыю горада, яго прыгажосць, захапленне і любоў да яго». Між іншым, зазначалася, што «ў якасці варыянта гімна можа быць выкарыстаная музыка У.Алоўнікава «Песня аб Мінску», аздобленая новым гімнавым вершам. Так што, можна лічыць, мелодыя-пераможца была вядомая ўжо загадзя. І па праўдзе, яна досыць не благая. Алоўнікаў наогул папулярны беларускі кампазітар. Сярод іншых ягоных песень, напрыклад, ёсць такая вядомая, як «Радзіма мая дарагая». У мінулым стагоддзі яе часта круцілі па радыё, а не так даўно пераапрацаваная, яна ўвайшла ў супольны музычны праект «Я нарадзіўся тут».

Як распавялі ва ўправе культуры Мінгарвыканкама, на конкурс былі дасланыя звыш 90 варыянтаў сталічнага гімна. Сачынялі людзі ад 10 да 80 гадоў, самадзейнікі і прафесійныя паэты, менчукі і тыя, хто Мінска ніколі і не бачыў. Нездарма ж кажуць, што Беларусь – краіна паэтаў. Пісалі нават трасянкай. Было што прыходзілі ва ўправу культуры, каб прама там спяваць свой варыянт, званілі з просьбамі зрабіць тую ці іншую праўку ў дасланым тэксце. Карацей, стаць аўтарамі мінскага гімна ахвотных знайшлося нямала.



Гартаючы гімнавыя варыянты, прынамсі, я не ўбачыў аніводнага вартага. Гэта звычайныя, банальныя тэксты, спрэс складзеныя з агульных да аскоміны месцаў. Найбольш кідаецца ў вочы тое, што занадта вайсковай тэматыкі. Іншым відавочным кан'юнктурным момантам стала імкненне шэрагу аўтараў дзеля таго, каб іхні варыянт прайшоў, згадаць колькі словаў пра Расію. Відаць, тут уплываюць увагнаныя ў галовы першыя радкі бээсэсэраўскага гімна. Такі ўжо зараз час! Таму не дзіўна, што адзін з тэкстаў з падобным зместам журы ў складзе такіх вядомых у культурніцкіх колах асобаў, як кіраўнікі Саюзаў музычных дзеячаў і пісьменнікаў, выбрала нават у фінальны адборачны тур конкурсу, дзе ўсяго засталося 6 песень. Як вам такі гімн Мінска:

*Узняўся ты ў высі з разгонкам,*
*З руін у святой барацьбе.*
*Сястрычка-Масква, як*
*сяброўка,*
*З надзеяй глядзіць на цябе.*

Але першынствавала гатовая і многім вядомая «Песня пра Мінск» на музыку У.Алоўнікава і рускамоўны верш І.Панкевіча ў сырым аматарскім перакладзе нейкай Н.Балоцінай. Дарабляць беларускамоўны пераклад да канца будзе паэт Віктар Шніп. Такім чынам, парушана тая ўмова конкурсу, што гімн мусіць быць напісаны па-беларуску. Менавіта напісаны (гэта значыць, быць беларускамоўны у арыгінале), а не перакладзены. Што, беларусы не могуць напісаць годны гімн для сваёй сталіцы па-беларуску? «Песня пра Минск» ужо маецца, цяпер, калі дэпутаты Мінскага гарсавета, як гэта мяркуецца, увосень у якасці гімна зацвердзяць ягоную перакладную версію (гэты гімн будзе ўспрымацца менавіта так), то будзе яшчэ і «Песня пра Минск». Усё гэта выглядае яшчэ адным білінгвістычным здзекам з беларускай мовы і з беларусаў.

А СТВ капыліць само па сабе. Пад выглядам дапаможнага тэлесуправаджэння згаданага конкурсу назбірала з відэатэкі БТ усе песні, пераважна рускамоўныя, дзе так ці інакш згадваецца Мінск, і круціць іх у эфіры: маўляў, ідзе конкурс на гімн Мінска, гэта песні-прэтэндэнты, дасылайце да нас свае водгукі. Нічога сабе гімн сталіцы – папса ад К.Слукі і Кавалёва...

**Кірэй МАНУЙЛА**

# В круге первом антисемитизма

*«Евреев мы все ругаем, евреи нам бесперечь мешают, а оглянуться б добро: каких мы русских тем временем вырастили? Оглянешься – остолбенеешь». Это сдержанное высказывание Александра Исаевича Солженицына по еврейскому вопросу (в рассказе 1966 года «Пасхальный крестный ход») долго умиляло многих отечественных интеллигентов еврейской национальности и приводилось как бесспорное свидетельство отсутствия антисемитизма у русского писателя.*

Опубликованная недавно первая часть книги Солженицына «Двести лет вместе (1795-1995)» представляет собой, по заявленному убеждению автора, исследование истории еврейского народа в царской России. На самом деле уже одна скудость и неполноценность источниковой базы не позволяет отнести солженицынскую книгу к категории научной литературы. Исторические исследования не пишутся на основе двух энциклопедий и нескольких сборников статей, без привлечения не только архивных документов и литературы на иностранных языках (хотя бы европейских, не говоря уже об иврите), но даже и массы источников, опубликованных в последние годы в России.

Основное намерение автора выражено им в предисловии. Он собирается «объемно и равновесно, обоестороннее осветить нам этот каленый клин (русско-еврейских отношений. – **Н.Р.**)». Нужда в этом есть, поскольку с одной из двух сторон слишком много понаписано «о вине русских перед евреями, даже об извечной испорченности русского народа», тогда как русские большей частью писали «запальчиво, переклонно, не желая и видеть, чтобы зачесть другой стороне в заслугу». Сразу возникает опасение, что обещаемая Солженицыным обоесторонность сама не без переклонности: еврейских авторов он прямо упрекает в русофобии (хотя на самом деле у них трудно что-либо найти насчет «извечной испорченности русского народа»), а у единокровных соотечественников, в том числе зоологических антисемитов, усматривает разве что излишнюю запальчивость. При чтении книги это опасение оправдывается постоянно.

Образчик солженицынской объективности – комментарий к введению в Российской империи в 1887 году процентной нормы для еврейских учащихся. «Как на всякое явление, – пишет Александр Исаевич, – так и на эту государственную меру можно посмотреть с нескольких сторон, и уж по меньшей мере с двух». Мысль не очень характерная для автора «Наших плюралистов», но пойдем дальше. Да, для еврейской молодежи «этот... барьер был более чем досадителен». Однако «на взгляд «коренного населения» – в процентной норме не было преступления против принципа равноправия – даже наоборот». Ведь в отсутствие административных ограничений стремление евреев к образованию «в иных местах могло означать еврейский состав больше 50 % в высших учебных заведениях». Действительно, перспектива устрашающая. «И вот, – заключает Солженицын, – процентная норма несомненно была обоснована ограждением интересов и русских и национальных меньшинств, а не стремлением к порабощению евреев».

Своего рода логика тут, конечно, есть. Заметим только, что Солженицын придерживался ее не всегда. Почему, например, создатель «Архипелага ГУЛАГ» не счел нужным посмотреть «с нескольких сторон, и уж по меньшей мере с двух» на большевистские преследования православной церкви, на сталинскую коллективизацию или хотя бы на дискриминацию «социально чуждых элементов» в советской России 1920-1930-х годов? Вероятно, потому, что эта великая книга была вдохновлена негодованием против притеснений и состраданием к жертвам. А когда к жертвам симпатии нет, удобно перейти от «художественного исследования» (так был определен жанр «Архипелага») к академической беспристрастности.

Такую беспристрастность проявляет писатель-историк при анализе еврейских погромов в России конца XIX - начала XX века. Тут он считает нужным полагаться на полицейские донесения, которые «неоднократно доказали свою отчетливую безукоризненную точность». После этого источниковедческого введения вполне позволительно предпослать описанию гомельского погрома 1903 года такой вот эпический зачин: «Евреи г. Гомеля... в последнее время стали держать себя не только надменно, но и прямо вызывающе; случаи оскорбления крестьян и рабочих как на словах, так и действием стали повторяться все чаще и чаще, и даже по отношению к интеллигентной части русского общества евреи стараясь всячески подчеркивать свое презрительное отношение, заставляя, например, сворачивать с тротуаров даже военных». Так и видишь это наглое измывательство над народом и интеллигенцией, которое не могло не привести к прискорбным последствиям... А когда излагаются обстоятельства случившегося в том же году кровавого кишиневского погрома, не упускает автор процитировать местного прокурора Горемыкина: мол, некоторые евреи «имели при себе... и бутылки с серной кислотой, коей они и плескали в проходящих христиан». И чтобы читатель, не дай Бог, не усомнился в достоверности этого свидетельства, Солженицын уже от себя вдумчиво поясняет: «Аптеками традиционно владели евреи».




Благосклонное понимание демонстрирует Солженицын по отношению к проявлениям государственного антисемитизма и к деятелям русской истории и культуры, прославившимся, помимо прочего, и на антисемитском поприще. Вот, например, государь Александр III «поворачивает к тому, чтобы сдерживать российское еврейство стеснениями гражданскими и политическими». Процентная норма справедливости диктует автору такой комментарий: «Вероятно, резонами были заметное участие евреев в революционном движении и не менее заметное уклонение от воинской службы». И о мотивах выселения евреев из Ялты в 1893 году: «Тут могло быть, конечно, после стольких террористических покушений в России, и соображение о безопасности царской семьи в Ливадии».

Или, скажем, сочувственная фраза Солженицына о Достоевском, который «отметил непропорциональное ожесточение, встретившее его обидные, но малые замечания о еврейском народе». Тут дается ссылка на «Дневник писателя 1877 года», где у Федора Михайловича есть, например, такой пассаж: «Что если бы не евреев было в России три миллиона, а русских, и евреев было бы 80 миллионов – ну, во что обратились бы у них русские и как бы они их третировали? Дали бы они им сравняться с собою в правах?.. Не обратили бы их прямо в рабов? Хуже того: не содрали бы кожу совсем, не избили бы дотла, до окончательного истребления, как делывали с чужими народами в старину?». И в самом деле, замечание, быть может, обидное, но малое. С чего это еврейские корреспонденты Достоевского так возмутились? Не менее сочувственно цитируется и Розанов, увидевший, по Солженицыну, «потерю меры, особенно среди печати еврейской» в протестах против дела Бейлиса: «Железная рука еврея... сегодня уже размахивается в Петербурге и бьет по щекам старых заслуженных профессоров, членов Государственной Думы, писателей...» Это единственное место в болезненно юдофобской книге Розанова «Обонятельное и осязательное отношение евреев к крови», которое Солженицын счел нужным привести в своем исследовании. Что ж, спасибо и на этом.

Между тем к попыткам еврейской общественности защититься от погромной травли с помощью гласности Александр Исаевич относится без всякой снисходительности. После отрывка из воспоминаний М.А. Кроля, в котором рассказывается об этих попытках, следует эмоциональный комментарий: «Доставка достоверной информации» ради возбуждения «той или иной кампании в прессе» – производит несколько жутковатое впечатление, особенно зная уже весь опыт XX века. На сегодняшнем языке это называется: умелое манипулирование прессой». Вообще-то многое в дореволюционной жизни российского еврейства, о которой пишет Солженицын, производит даже не жутковатое, а жуткое впечатление – а уж особенно с учетом опыта XX века. Но у автора такой возглас вырывается только единожды и, как представляется, в не самом подходящем месте.

В своей книге Солженицын последовательно придерживается нехитрой методологической схемы. По тем вопросам, которые он считает спорными, дается как «еврейская» точка зрения (чаще всего цитата из «Еврейской энциклопедии»), так и «русская» (как правило, для евреев нелестная). Затем проводится излюбленная Солженицыным «средняя линия» – так сказать, между семитами и антисемитами. Так, по мнению автора, и достигается искомая «обоесторонность». Как мы уже видели, даже такая процентная норма объективности соблюдается писателем далеко не всегда. Но, пожалуй, главная беда солженицынской книги в другом – в том, как автор понимает «еврейский вопрос».

Похоже, Солженицын убежден, что с момента появления в России в конце XVIII века многочисленного еврейского меньшинства государство столкнулось с огромной и сложной проблемой. Эту проблему российские императоры, министры, генералы, губернаторы, чиновники напряженно и в целом добросовестно пытались разрешить: евреев выселяли то из деревень, то из городов; то пытались занять их земледельческим трудом, то запрещали им владеть землей; то поощряли их к образованию, то преграждали им доступ в школы и университеты; то дозволяли отдельным категориям евреев селиться за пределами черты оседлости, то ужесточали старые и вводили новые ограничения... И ведь в основном с добрыми намерениями: Екатерина II относилась к евреям «сочувственно», царствование Павла I прошло для них «благополучно», у Александра I отношение к евреям было «доброжелательное», Николай I был по отношению к ним весьма «энергичен», причем его личное вмешательство складывалось для евреев «далеко не всегда вредно», Александр II «выразил намерение решить еврейский вопрос... благоприятно». Да и при двух последних императорах правительство отнюдь не было гонителем евреев, а только их «косным стеснителем, хотя неуверенным, непоследовательным».

Конечно, Солженицын признает, что в решении еврейской проблемы, как и многих других, еще более существенных, российская власть оказалась, мягко говоря, не на высоте. Но для него, видимо, не подлежит сомнению, что проблема была и устраниться от ее решения государство никак не могло. И ему не приходит в голову простой вопрос: а может, проблемы-то и не было? Может, государство с самого начала пошло по ложному пути? Может, если бы власть имущие, вместо того чтобы с такой энергией и изобретательностью ограждать «коренное население» от экономического «хищничества» евреев, оберегать от их «специфических приемов» моральную чистоту адвокатского сословия, не допускать их наплыва в учебные заведения, а еще и способствовать их «слиянию с гражданским обществом», избавлять их от «нравственных пороков» и внедрять среди них «истинное просвещение», просто оставили евреев в покое и хотя бы перестали их притеснять, не было бы никакого «каленого клина»?

В интервью по поводу выхода в свет первого тома «Двухсот лет вместе» Александр Исаевич удивился тому, что время от времени по его адресу раздаются упреки в антисемитизме. Напомнил, что и в его произведениях есть симпатичные еврейские персонажи, и личные отношения со многими евреями у него были прекрасные. Что ж, конечно, Солженицын не генерал Макашов и даже не академик Шафаревич. Он находится, если можно так выразиться, на цивилизованной обочине антисемитизма. В круге первом.

**Николай РУДИНСКИЙ**
*Grani.ru*



ПАМЯЦЬ

## Аляксандар Уласаў

*Жыццё А.Уласава – паказальны прыклад ахвярнай працы на карысць Бацькаўшчыны, нястомнай барацьбы.*

Нарадзіўся Аляксандар Мікітавіч 16 жніўня 1874 г. у вялікай сям'і паштовага служачага. Вучыўся ў рэальным вучылішчы, Рыжскай Палітэхніцы, навучанне ў якой ускладнялася ўдзелам у рэвалюцыйным руху.

У 1906 г. ён разам з братамі Луцкевічамі заснаваў легендарную «Нашу Ніву» і да 1912 г. рэдагаваў і выдаваў яе. Выданне газеты вымагала значных выдаткаў, таму нярэдка Уласаў укладаў у выданне газеты ўласныя прыбыткі, атрыманыя з фальварка Мігаўка пад Радашковічамі.

З тым фальваркам звязана мноства цікавых і анекдатычных гісторыяў. Аляксандар Уласаў, маючы атлетычную фігуру і высокі рост, любіў хадзіць па фальварковым садзе ў адных трусах, наводзячы жах на наваколлі такім выглядам. (Пурытанскія норавы былі напачатку стагоддзя!) У ягоным доме заўжды было шмат гасцей, якіх ён прымушаў займацца на спартовых трэнажорах, што стаялі ў садзе.

У 1912 г. А.Уласаў пакінуў месца рэдактара «Нашай Нівы», пераехаў у Менск і распачаў рэдагаванне часопіса для сялянаў «Саха». У яго запыталі: «Што трэба для заснавання новага перыядычнага выдання?» Рэцэпт быў просты: «Пакой, колькі скрынак замест крэслаў, прымус, чайнік і паболей энтузіязму!». А з 1914 г. Уласаў, карыстаючыся гэтай формулай, пачаў выдаваць часопіс для моладзі «Лучынка».

У 1919 г. ён вярнуўся ў родную Мігаўку, што, згодна з Рыжскай мірнай дамовай, адышла да Польшчы. Уласаў быў абраны ў Польскі Сенат, дзе бараніў правы беларускага народа. Ён не аднойчы сябе ні да камуністаў, ні да хрысціянскіх дэмакратаў, але яму давяралі ўсе, бо такому грамадскаму і жыццёваму вопыту можна было толькі пазайздросціць. Уласаў арганізаваў беларускую гімназію ў Радашковічах і інтэрнат для навучэнцаў, у што ўклаў нямала ўласных сродкаў і здароўя.

У Мігаўцы і Радашковічах з моладдзю ставіў спектаклі, ладзіў святы. Праводзіліся нават конкурсы на самую прыгожую дзяўчыну. Знакаміты энтузіязм Аляксандра Уласава значна знізіўся пасля таго, як польскія ўлады зачынілі гімназію. Гэта ў той час ён напісаў: «Я належу ўжо да старэйшага пакалення, барабаню пра беларусаў гадоў 50. Усе нашыя павадыры на беларускай справе кар'еры не зрабілі. Жыццё іх горкае, мучаніцкае і ідуць яны не па кветках, а па калючках».

Са спадзеяй на лепшае сустрэў Аляксандар Уласаў у верасні 1939 г. «чырвоных братоў» з Усходу. Спадзяваўся, што ягоная саракагадовая праца на карысць Беларусі будзе аддзячаная. Памыліўся, бо «чырвоныя браты» аказаліся звычайнымі бандытамі.

У кастрычніку 1939 г. Уласаў выбраўся ў Маладзечна, каб уладкавацца на працу ў мясцовую газету. Трэба было напісаць аўтабіяграфію. Ён згадзіўся і апісаў уласны ўдзел у беларускім незалежніцкім руху. Гэтых 17 старонак аказалася дастаткова для арышту па абвінавачанні ў нацыянал-фашызме. Па афіцыйных звестках, памёр Аляксандар Мікітавіч Уласаў 11 сакавіка 1941 г. па дарозе ў канцлагер у Новасібірскай вобласці.

**Алег ГАРДЗІЕНКА**

ТУРНІР

## Памяці Генадзя Карпенкі




Каманда Фонду імя Генадзя Карпенкі стала ўладальніцай Кубка Свабоды па футболе памяці Генадзя Карпенкі. Спаборніцтвы прайшлі 29 ліпеня ў Мінску.

Гэты турнір традыцыйна праводзіўся ў ліпені вось ужо пяты раз. Да ўчарашняга дня кубак тройчы заваёўвалі футбалісты зборнай Аб'яднанай грамадзянскай партыі, а ў 2000 годзе — Партыі БНФ.

Сёлета галоўны прыз аспрэчвалі 8 камандаў: зборныя Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ, Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі-БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), маладзёжнага руху «Зубр», каманда «Перамен», каманда Фонду імя Генадзя Карпенкі і зборная журналістаў. Апошнія дзве каманды і разыгралі ў фінале Кубак Свабоды. З лікам 5:2 перамагла каманда Фонду Г.Карпенкі.

Трэцяе і чацвёртае месцы падзялілі зборныя Партыі БНФ і Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі-БНФ.

Лепшым нападаючым турніра былі прызнаны журналіст «Нямецкай хвалі» Уладзімір Дорахаў, а лепшым варатаром — Аляксандр Панкратаў («Белорусская деловая газета»).

**Юрый ПАЦЁМКІН**

КРЫМІНАЛ

## Прапаў старадаўні абраз

Прапажу абраза Пераўвасаблення Боскага выявілі 29 ліпеня служыцелі царквы ў вёсцы Сялец Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. У Тураўска-Мазырскай епархіі паведамілі, што абраз адносіцца да пачатку XIX стагоддзя. Вясковая царква адкрываецца толькі на нядзельныя набажэнствы, таму не выключана, што абраз адсутнічаў ужо тыдзень. Невядомыя трапілі ў храм, адпілаваўшы дужку замка.

Крымінальная справа па дадзеным факце не ўзбуджалася. Аднак, як паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, міліцыя шукае па дазрэнні за ўчыненні гэтага злачынства былога святара.

**Ірына ШАНЦАВА**

# «Курск» и крейсер-убийца

*Чем больше времени проходит с момента гибели «Курска», тем очевиднее становится, что ситуации и с расследованием причин трагедии, и с подъемом атомохода, и с наказанием виновных развиваются по самому плохому сценарию. Изолгавшиеся военно-морские чиновники сохраняют свои посты, принят поистине «золотой» и в то же время совершенно неработоспособный план тросового подъема лодки, путем отрезания первого отсека уничтожаются последние следы преступления, деньги налогоплательщиков со свистом расходуются «Рубином» и аффилированными компаниями, полным ходом идут дезинформация и оболванивание общества.*

Есть несколько принципиальных моментов, рассмотрение которых обязательно для понимания происходящего, и именно эти вопросы тщательно обходятся и замалчиваются как правительственной комиссией во главе с Ильей Клебановым, так и руководством ВМФ и ЦКБ «Рубин».

Подозрения в отношении того, что Курск был потоплен нашим же тяжелым крейсером, появились практически сразу после объявления об аварии. Первая публикация с таким предположением прошла в газете «Новый Петербургъ» еще 17 августа 2000 года. Были названы два возможных объекта исследования: авианесущий крейсер «Адмирал Кузнецов» и большой противолодочный корабль «Адмирал Чабаненко». Полагалось бы в течение нескольких дней провести осмотр днищ всех кораблей, участвовавших в учениях, что помогло бы подтвердить либо опровергнуть эту версию.

Ничего этого сделано не было. Более того, уже 14 августа «Адмирал Кузнецов» убыл из района аварии в неизвестном направлении. Журналистам же было объявлено, что на крейсере «Петр Великий»(!) нет никаких следов столкновения с подводным объектом и версия о таране лодки нашим тяжелым кораблем несостоятельна. При чем тут «Петр Великий», если речь шла о «Кузнецове» и «Чабаненко», не понял никто. После сего ответа пресс-служба ВМФ стала хранить гордое молчание и более не реагировала ни на устные, ни на письменные запросы по поводу авианосца и БПК. Вроде как разговаривать больше не о чем.

А с авианесущим крейсером тем временем продолжают происходить весьма странные события. Его командир тихо отправлен в отставку, многие офицеры переведены на другие корабли, сама посудина то появляется в сухом доке, то исчезает, штаб ВМФ бормочет нечто невнятное по поводу дислокации «Кузнецова» в первой половине дня 12 августа 2000 года, отложен на неопределенное время поход авианосца в Средиземное море, пропали записи кренометра авианосца, по которым легко восстановить картину происшедшего и т. д. Всё это в совокупности не может быть простым совпадением. Слишком активно этот корабль выводится за рамки расследования.

Нетрудно понять причины такого поведения командования ВМФ и Северного флота. Ответственность за любые инциденты во время учений несут командующие учениями — в данном случае адмиралы Вячеслав Попов и Михаил Моцак, расписавшие квадраты действий для каждого из кораблей. И если будет доказано, что по их вине в одной и той же точке на мелководье оказались атомный подводный крейсер и авианосец, то Попова и Моцака следует судить как минимум за халатность, приведшую к человеческим жертвам.

Усиленно проталкивая версию несчастного случая с торпедами (что предполагает отсутствие прямой ответственности командования Северного флота), члены госкомиссии ссылаются на норвежских сейсмологов, зафиксировавших два явления, эквивалентных взрывам 200 и 1.500 килограммов тротила. Здесь мы видим прямую подмену понятий, столь часто встречающуюся в истории с «Курском». Норвежцы никогда не утверждали, что засекли именно взрывы. Наоборот, по их данным, наблюдавшееся явление более походит на столкновение двух массивных тел: растянутое во времени, имеющее несколько пиков возмущения и пр. Тротиловый эквивалент приводился лишь для более точного определения характеристик явления, не являясь при этом главным. Клебанов и сотоварищи взяли наиболее выгодные с их точки зрения фрагменты отчета норвежских специалистов, забыв представить полный текст.





Версия взрыва боезапаса выглядит совсем странно, если вспомнить одну простую вещь: утром 12 августа в акватории Баренцева моря курсировали более 20 российских боевых кораблей с включенными гидроакустическими станциями. Ни одна ГАС никаких взрывов не зафиксировала. Тогда о какой детонации торпед идет речь? И почему до сих пор не обнародованы отчеты гидроакустического контроля района учений, который проводился не только с кораблей-участников, но и самолетами морской авиации и береговыми станциями слежения?

Ответ прост. Акустические портреты взрывов торпедных боеголовок не соответствуют тем шумам, что были записаны 12 августа. Делать их достоянием гласности опасно, ибо независимые инженеры-гидроакустики быстро разберутся что к чему. К тому же характер повреждений «Курска» не соответствует результату взрыва нескольких семисоткилограммовых боеголовок. На АПРК имеется всего одна длинная и узкая пробоина, тянущаяся примерно на 15-18 метров. Края пробоины загнуты внутрь корпуса лодки. Правая скула «Курска» вмята на площади около 6-8 квадратных метров и имеет несколько десятков продольных царапин, что позволяет говорить об ударе по касательной о борт крупного надводного объекта. Правое перо паруса рубки деформировано.

Примечательно, что в полном объеме видеосъемки «Курска» крутятся по западному телевидению, а у нас лишь невнятные фрагменты. Опять попытка напустить туману. Опять вранье...

**Дмитрий ЧЕРКАСОВ**
*Грани.Ру*

СПОРТ

# Чатыры ці тры?

Сёння, пасля завяршэння паўторнай сустрэчы ў Браціславе паміж чэмпіёнам Славакіі «Інтэрам» і лепшай камандай апошняга сезона Беларусі мазырскай «Славіяй», вызначыцца пераможца, які працягне барацьбу ў Лізе чэмпіёнаў і сустрэнецца ў наступным, трэцім раўндзе кваліфікацыйнага турніра, з нарвежскім «Русенборгам». У сваю чаргу пераможца гэтай пары трапіць у групавы турнір, аб якім марыць кожны чэмпіён. У першым матчы, як вядома, перамогу на выездзе атрымалі славацкія спартсмены з лікам 1:0, таму, адпаведна кубкавай арыфметыцы і законам, іх шанцы выглядаюць, канешне, лепей. Абодва калектывы паспяхова правялі свае апошнія сустрэчы ў нацыянальных першынствах. Мазыране, нібы на адной назе, лёгка разгромілі дома футбалістаў з Маладзечна, 4:0; іх кубкавы сапернік, таксама ў хатнім паядынку, нанёс паразу «Матадору» – 2:0. Палеская каманда ўзнялася ў турнірнай табліцы на чацвёртае месца, трэцім ідзе ў спісе бамбардзіраў спаборніцтваў зараз не нападаючы Валерый Стрыпейкіс, які з'явіўся аўтарам трох галоў у вароты маладзечнацаў. Дарэчы, на яго рахунку зафіксавана ўжо 105 забітых мячоў у залік «Клуба бамбардзіраў-100», дзе ён займае трынаццаты радок сярод пятнаццаці самых трапных беларускіх футбалістаў. Апошнім членам элітнага клуба стаў яго былы напарнік Раман Васілюк, які свой юбілейны, соты гол правёў у складзе маскоўскага «Спартака» ў першынстве Расіі, дзе ён зараз выступае.

Пацыху ў мазыран складваецца новы дуэт нападаючых з удзелам Стрыпейкіса і Жафара Ірысметава, які быў своеасаблівым «дадаткам» да мільённага кантракта з боку масквіча. Праўда, былы спартакавец, легіянер з Узбекістану, галоў у складзе «Славіі» пакуль не забіваў, але разуменне ў гульні са Стрыпейкісам знайшоў. Хаця, па дамоўленасці, ён планаваў дапамагчы мазыранам толькі на перыяд кубкавых выступленняў, потым намерваўся амаль на месяц з'ехаць на радзіму выступаць за нацыянальную зборную сваёй краіны. Калі беларускаму калектыву сёння зноў не пашанцуе, дык вельмі перспектыўныя планы нападаючых можа свае плады і не ўзрасціць. У адчувальна хісткім становішчы знаходзіцца зараз галоўны трэнер палешукоў Улад Петравіч, для якога паспяховая гульня ў Браціславе патрэбна, як паветра.

Упершыню беларускі футбол прадстаўлены ва ўсіх трох еўрапейскіх кубкавых турнірах вельмі прадстаўніча, адразу пяццю калектывамі. Пашанцавала салігорскаму «Шахцёру», ён быў уключаны ў самы апошні момант у спіс удзельнікаў розыгрышу Кубка УЕФА. Звычайна, больш за чатыры каманды мы не мелі права выстаўляць, але вось сёлета з'явілася добрая магчымасць неяк нагіцца ў гэтым паказчыку да еўрапейскай эліты. На жаль, сталічныя динамаўцы ўжо сыйшлі са свайго шляху, такая ж пагроза навісла і над клубам з Прыпяці. Астатнія паспрабуюць свае сілы праз дзевяць дзён.

Адзінаццаты па ліку чэмпіянат стаў даволі шчырым на трэнерскія змены, адстаўкі ідуць адна за другой. Калі напачатку сезона ў вышэйшай лізе былі тры замежныя спецыялісты, дык зараз застаўся толькі адзіны – Петравіч. За расійскім трэнерам Кузняцовым, які ўзначальваў спачатку «Славію», потым «Гомель», сышоў некалькі дзён таму настаўнік мінскага «Дынама» Аляксандр Піскароў, які, забраўшы свайго сына, з'ехаў дамоў у Маскву. Сталічных футбалістаў зараз рыхтуе вядомы гулец «эры Эдуарда Малафеева» Георгій Кандрацьеў. Яшчэ адзін вучань славутага трэнера, прызванага стаць нібы «месіяй» беларускага футбола, прызначаны галоўным у наваполацкі «Нафтан». Гаворка ідзе пра Андрэя Зыгмантовіча. Ці прынясуць нейкія змены ў гульню каманд новыя прызначэнні і, як след, палепшаць яны турнірныя пазіцыі гэтых клубаў, цяжка сказаць. Пакуль што дэбют Андрэя не прынёс нікому асалоды, «Нафтан» прайграў у гасцях мінскім аўтазаводцам, гульцы «дзядзькі Кандрата» усё пасілкаваліся толькі нічыёй у Гродне. Сёння дынамаўцаў чакае цяжкае выпрабаванне: на сваім стадыёне ў Барысаве іх будзе экзаменаваць нязменны лідэр сёлетняга першынства – БАТЭ. Як і бабруйская «Белшына», футбалісты Юрыя Пунтуса маюць 32 ачкі, але згулялі на адну гульню менш за праследавацеляў. Трэцім пакуль ідзе «Нёман-Белкард» – 26 ачкоў.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1741 Нумар падпісаны ў друк 31/07/2001 (15:00) Наклад — 9.410